# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ



ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ

БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА

КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982

ГОД 22/28 | ВЯЛІКДЗЕНЬ 2000 | 1/49/59


## ВЯЛІКОДНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ



ХРЫСТОС ВАСКРОС!

Із слаўным Хрыстовым Устаньнем з Умерлых вітаю Вас Годнае Чэсьці Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы, што да свае роднае Сьвятое Царквы імкняцеся, а доступу ня маеце.

Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры!

Радасна сьвяткуючы Хрыстовае Устаньне з Умерлых, мы з пашанаю чэсьцім найвялікшы выяў Божае Учемагутнасьці.

Нярaз, аднак, у імкненьні нацешыцца гэтай сьвятняй радасьцяй, мы забываемся, што гэты выяў быў дадзены не на прычыну да гульбы й застольляў, а на довад бязьмежнае Божае да нас любасьці.

Бо, ці-ж можа быць большая любасьць за Божую, зь якое Наймагутны Стварэц сьвету аддаў неадзьдзельную частку Самога Сябе - Свайго Сына, на пакуты й сьмерць, каб гэтым парваць путы грэху, што аблыталі людзкі род усьлед за ягоным стварэньнем ды адчыніць гэтаму роду шлях Божых Наказаў да збаўленьня?



Збаўленьне кожнага з нас, аднак, не забясьпечанае адно праз пакуты, памерце й перамогу над сьмерцяй Божага Сына - дзякуючы гэтым вялікім падзеям яно стала раней нябылой магчымасьцяй, якую трэба скарыстаць, ці, лепш кажучы, на яе заслужыць.

Заслужыць-жа на яе можна стаўшы вартым Божае любасьці, а гэта значыць займеўшы ў сэрцы шчырую любасьць да Бога на першым мейсцы.

Любасьць да Бога ня можа, аднак, заставацца ў добрых намерах і прыгожых словах - яна патрабуе довадаў учынкамі й дзеямі паводле Божае Волі й Ягонае Навукі.

Асноваю-ж Ягонае Навукі, побач зь любасьцяй да Бога, ёсьць яшчэ й любасьць да бліжняга.

Вось гэтая любасьць да бліжняга й дае нам нагоды на добрыя ўчынкі й дзеі, што патрэбныя на заслугу Божае любасьці да нас самых.

Мова праз добрыя ўчынкі ў дачыненьні да бліжніх найчасьцей выклікае ў нашым уяўленьні абразы гераічнае ім дапамогі, або вялікіх ахвяраў і адмаўленьня сабе ў неабходнасьцях на іхны ратунак.

І бываюць, пэўна-ж, выпадкі, калі гэткі гэраізм ды ахвярнасьць патрэбныя, але найчасьцей любасьць да бліжняга замыкаецца ў межах штодзённых справаў.

У гэтых, вось, штодзённых справах патрэбная заўсёдная ветлівасьць да нашых блізкіх, цярплівасьць да іхных слабасьцяў, спагад і парада у іхных цяжкасьцях ды ўсьцеха ў сумаваньнях, да чаго мы не заўсёды маем ахвоту.

Азначэньне бліжняга, аднак, ня абвежваецца да нашае сям'і, ці кола людзей зь якімі маем непасрэдныя дачыненьні - яно ахоплівае й наш Беларускі Народ, зь якога мы пайшлі й сярод якога жывем, ці мы самыя, або нашыя бацькі й дзяды жылі.

Вернасьць гэтаму Народу, захоўваньне Богам дадзенага яму культурнага багацьця, пашана да гістарычнае памяці ды абарона таксама Богам дадзенага гэтаму Народу права на свабоду - гэта й ёсьць любасьць да бліжняга, але яшчэ ў шырэйшым абсягу, ды таму яшчэ больш дагодная Богу.

Вешчаныя-ж у Ягонае Ймя хвальшывымі прарокамі навукі няроўнасьці між людзьмі й народамі гідкія Богу.

Сьцерагчы бо й весьціць запраўдную Навуку Збаўленьня наш Збавец Ісус Хрыстос, пасьля Устаньня з Умерлых, паставіў Ягоную Царкву ды саслаўшы Сьвятога Духа на Апосталаў даў магчымасьць усім народам стаць часткамі гэтае адзінае Царквы.

Гэткай часткай адзінае Хрыстовае Царквы й ёсьць Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, што весьціць Божую да нас любасьць ды кліча любіць блізкіх, свой народ ды ўсё чалавецтва.

Прыналежнасьць да гэтае Царквы ды Ейнае падтрымоўваньне й ёсьць выявам ды довадам любасьці да Бога кожнага праваслаўнага беларуса.

Няхай-жа за выяўленую падтрыманьнем Ягонае Царквы любасьць да Бога прыяе Вам і мае Вас у апецы наш Збавец Ісус Хрыстос, што

Запраўды Васкрос!

*+Мітрапаліт Ізяслаў*  
Першагерарх  
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

# УСЬЛЕД ЯК ПРАПЯЯЎ ПЕВЕНЬ

Вячэра дайшла да канца й Ісус, устаўшы зза стала, у задуменьні пазіраў праз ваконца на места, што ў цемры паблісквала рэдкімі хатнімі сьвяцельцамі

Вучні-ж яшчэ мітусіліся, хаваючы ў іхныя хатулі рэшткі ежы ды прыбіраючы за сабою сьвятліцу.

Урэшце, управіўшыся, яны сьціхлі й Ісус, заўважыўшы цішыню, адвярнуўся да іх ды мовіў: "Пойдзем".

Куды йсьці Ён не сказаў, бо ўсе ведалі, што звычайным іхным мейсцам на начлег ў Ярузаліме была пячора ў Гэтсыманскім гаі за Кядронскім ручаём.

Месьцічы яшчэ спажывалі пасхавую вячэру й на цёмных вулачках было пуста й спудна, але Ісус, не адзываючыся да нікога, упэўнена крочыў знаёмай дарогай.

Заўважыўшы Ягоную неахвоту да гутаркі вучні таксама не гаманілі, а, ідучы, моўчкі разважалі аб тым, што Ён сказаў на вячэры.

У гэтых моўкных разважаньнях іхная грамадка расьцягнулася на колькі дзясяткаў крокаў і ніхто не заўважыў, як Юда зьвярнуў у завулак і зьнік у цемры.

Заглыблены ў думкі над Ісусавымі словамі Пётра, што звычайна трымаўся блізка Настаўніка, ступаў найпавальней і апынуўся ў канцы за ўсімі.

Ягоныя-ж думкі былі зблытаныя, Настаўнік бо казаў на вячэры, што неўзабаве пойдзе да Айца, а безь Яго нельга было ўявіць, як жыць на сьвеце й з таго агартала трывога.

Дык як-жа Ён, яшчэ малады векам, адыйдзе, калі Яго з захапленьнем вітаюць ды да Ягоных словаў прыслухоўваюцца цэлыя натоўпы?

Хто-ж будзе гэтыя натоўпы навучаць і павядзе праведлівым шляхом?

Дапякалі й словы, што, пакуль запяе певень у гэтую ноч, ён, Пётра, адрачэцца, што быў зь Ісусам.

Уявіць, як гэта магло-б стацца, ён ня мог і трывожыўся, што за нешта ўпаў у Ісусавую неўпадобу.

Ісусавае-ж неўпадобы ён баяўся, бо ў душы парою зьяўлялася няпэўнасьць, якую ён з сораму трымаў у сабе, апрача тае начы, калі ў буру на возяры паймкнуўся йсьці па вадзе ды, каб Ісус не працягнуў руку на ратунак, утапіўся-б.

Гэтак, кожны зайняты сваймі думкамі, вучні зь Ісусам на чале, акінутыя позіркамі сонных рымскіх жаўнераў, моўчкі мінулі адчыненую на сьвята меставую браму й сьцежкамі неўзабаве дайшлі да Гэтсыманскага гаю.

Там, памаліўшыся, вучні, хто ў пячоры, а хто перад ёю акрыўшыся гунькай, прымасьціліся на начлег.

Ісус, аднак, ня лёг, а адыйшоў на маленькую палянку, сярод якое ляжаў вялікі камень.

Усе ведалі, што гэта было ягонае ўлюбаванае мейсца на малітвы й ніхто да яго не абазваўся.

Размаўляць між сабою таксама ня было ахвоты, дык неўзабаве агарнула дрымота й усе паснулі.

Пётру адразу пачаў сьніцца сон, што ён стаіць вартаўніком пры браме, няйначай як раю, і годных пускае увайсьці, а нягодных адсылае на пакуты ў пекла.

Ажно адзін з гэных нягодных, зірнуўшы Пётру ў вочы, спытаўся, ці ён сам, заслабое веры, каб пайсьці па вадзе ды адрокшыся, што быў з Хрыстом, годзен быць судзьдзём над іншымі.

Пётра засаромеўся й ня ведаў, што сказаць, а той нахабны нягоднік усё болей насядаў, ажно карцела ўцячы, але ня рухаліся ногі й ён з жаху прачнуўся.

Над ім стаяў Ісус, што зараз з дакорам да ўсіх мовіў: "Чаму вы сьпіцё? Устаньце й малецеся, бо прыйшла пара выпрабаваньня!".

Адразу-ж пасьля Ягоных словаў пачуўся гоман і ў сьвятле смаляных сьветачаў да пячоры падыйшла грамада ўзброеных людзей зь Юдам наперадзе.

Пабачыўшы Ісуса Юда паймкнуўся пацалаваць Яго й гэтым выдаць збройнай аблаве, але Ісус адхіліўся й Сам спытаў: "Каго шукаеце?" й на адказ: "Ісуса Назарэцініна" мовіў: "Гэта Я".

Тады Яго схапілі й, выкруціўшы рукі, зьвязалі.

Пётра, бачачы гэта, падумаў, што напалі разбойнікі й выхапіўшы мечык, што насіў на абарону ў такой нагодзе, выцяў аднаго зь іх па галаве, адсекшы таму правае вуха.

Але Ісус мовіў: "Не чапайце іх" й у міг загаіў адсечанае вуха.

Пасьля гэтага ўзброеныя людзі, што былі архірэявымі слугамі, павялі Ісуса ў архірэявую гасподу ды там на панадворку зьдзекаваліся над ім, Ісусавыя-ж вучні зь перапалоху паўцякалі ды пахаваліся.

Пётра, аднак, пайшоў сьледам за асокай і ўпрасіўся, каб яго пусьцілі ў панадворак, дзе, сеўшы няўводдаль ад распаленага вогнішча, назіраў, як Ісуса білі.

Ажно адна з архірэявых наймічак, прыгледзеўшыся, сказала: "І гэты быў зь Ім", але Пётра цьвёрда ёй запярэчыў.

Усьлед яшчэ адзін чалавек паўтарыў тое самае й Пётра адказаў яму, што ён ня ведае праз што той гаворыць.

Урэшце адзін із узброеных слугаў, мовячы "Папраўдзе й гэты быў зь вязьням" паказаў на Пётру пальцам, але Пётра й ўзноў упёрся, што так ня было.

Усьлед за гэтым прапяяў певень й Ісус узьняў вочы, ды глянуў на Пётру, а той, успомніўшы Ісусавыя словы, адыйшоў убок і горка заплакаў.

Пабачыўшы гэта адзін із узброеных слугаў падыйшоў да яго й крануўшы за плячо прашаптаў: "Гэта ты мне адсек вуха".

Пётру на ягоныя словы адразу ўвілася, як яго будуць мучыць разам з Ісусам і ён амаль не самлеў.

Але слуга далей ціха гаварыў: "Ня бойся, я цябе ня ўдам, папраўды бо Божую Сілу мае Чалавек, што ты Яго бараніў, як-жа бо інакш Ён загаіў-бы маё вуха?

Ня плач, што Ён цяпер у путах - я веру, што Божая Сіла нятолькі гэтыя путы, але й сьмерць пераможа ды нас усіх выбавіць ад ліха, што над намі ўзяло ўладу.

Дык ідзі й весьць праз гэта ўсім, каб былі гатовыя сустракаць Перамогу".

Гэтта, абняўшы й прытуліўшы да сябе Пётру, ён пхнуў яго ў браму.

Пётра-ж, акрыяўшы ад спуду й сораму, пайшоў шукаць разьбеглых Ісусавых вучняў. *Запісаў Верац*

## ПСАЛЬМ 129

Цябе, Гаспадару, з глыбіні клічу,  
Гаспадару, пачуй маё гуканьне,  
На голас мой вушыма прыхіліся  
Ды ўважыць ласкаў будзь маё ўпрашаньне.

Калі наш кожны грэх Ты, Божа, зьлічыш,  
Тады на сьвеце жыць ці хто застане?  
Ды прабачэньня Ты бяз дна крыніца  
Й за гэта ў нас Ты ў велічнай пашане.

Мая душа Гаспадара чакае,  
Ягона слова мне на спадзяваньне,  
Кг Гаспадару мая душа душа ўзыймкае  
Балей як вартаўнік чакае раньня.

Няхай-жа вартаўнік чакае раньня,  
А Йзраіль на Гаспадара здаецца,  
Ў Гаспадара усьцяж бо зьмілаваньне  
Ды назусім збаўленьне ўвесь час.

Папраўдзе Йзраілю Ён дасьць дараваньне  
За чыста ўсю ягоную ўвагрэшнасьць.

* * *

# НА СЬВЯТОЙ ЗЯМЛІ

*Ад Рэдакцыі: З Божае ласкі нашаму сталаму чытачу доктару Вячаславу Казельку й ягонай спадарыні летась пашчасьціла наведаць Сьвятую Зямлю. На нашую просьбу ён быў ласкаў зладзіць апісаньне ягонага падарожжа, якое мы ніжэй прапануем увазе ўсіх нашых чытачоў.*

Я бясконца ўдзячны Богу за магчымасьць пабыць каля месяца ў Ізраілі. Як праз гэта напісаць і што я адчуваў сказаць цяжка.

Галоўнае, аднак, тое, што я марыў праз гэта ўсё маё разумнае жыцьцё й думаў, што яно будзе вяршыняй майго жыцьцёвага шчасьця. Неаднойчы ў думках я сабе ўяўляў, як ад шчасьця буду там поўзаць на каленках, хоць трапіць мне тады на Сьвятую Зямлю было тое самае, што зьлётаць на месяц. Цяпер я ведаю, што ў Бога няма нічога немагчымага.

Апынуўшыся ў Ізраілі, адчуў, як, быццам, я на сваім мейсцы. Ня было ніякага зьдзіўленьня, хоць гэта было маё першае замежнае падарожжа, а ведама, як нашая Бацькаўшчына розьніцца ад замежжа.

Зьдзівіла толькі вельмі сьвежае паветра, у якім лёгка дыхаць. Хмаркі на небе ўзьнікаюць там толькі ўзімку ды тады толькі й ідуць дажджы, а нязвычайная прыгажосьць кветак і расьлінаў, дзякуючы Богу й людзкой працы, захоўваецца ўвесь час.

Першае, што мы зрабілі - гэта адважыліся самастойна ехаць ў няведамым краі у Тэль-Авів (у апостальскія часы там было невялікае места Япія, дзе ў гарбара Сымона жыў апостал Пётра й дзе Бог абвясьціў яму праз ачышчэньне Хрыстовай ахвярай і паганаў).

Госпад нам дапамог і мы прыбылі на ўзьбярэжжа Міжземнага мора. Толькі ў гэтай частцы юдэйскага Тэль-Авіву пачынаюць паказвацца крыжы хрысьціянскіх цэркваў. Тут іх шмат: армянская, грэцкая, ярузалімская, рыма-каталіцкая.

Нажаль, усе яны ў будзённыя дні зачыненыя й мы ўзыйшлі на ўзгорак над морам, дзе паводле пераказу колькі часу жыў апостал. Цяпер там лацінская царква сьв. Пётры, куды мы й зайшлі памаліцца. У царкве цішыня й супакой, нязвычайная сьціпласьць інтэр'еру. Між іншым гэта свома й усім сьвятыням Сьвятое Зямлі - ніякага золата й роскашы, толькі невялікая колькасьць абразоў і мазаіка. Сьцены выкладзеныя ярузалімскім камяням. Хоць сонца бязьлітасна нас папаліла, вяртацца ўвечары вельмі не хацелася.

Наступнай часткай нашага падарожжа было наведаньне места над местамі - Ярузаліму. Прабачце, што пішу даволі сьціпла, але я ня ведаю, як можна гэта выявіць на паперы, тым больш, калі трэба абмежыцца парай бачынаў.

Шлях да Ярузаліму пралёг праз усім ведамыя мясьціны: Лод, дзе пахаваны сьв. Юры, Эмаус, дзе Госпад зьявіўся двум вучням, што пачалі разыходзіцца зь Ярузаліму пасьля Ягонае крыжовае сьмерці. Цяпер тут манастыры, у якія нам, нажаль, не давялося трапіць.

Недалёка ад Эмауса ёсьць кляштар францысканцаў, дзе паводле пераказу было мястэчка, у якім жыў добры разбойнік, што на крыжы прасіў Госпада ўспомніць яго ў Небавым Гаспадарстве.

Гэтак паступова дарога нас вяла да заходніх ускраінаў Ярузаліму. Вось паказаліся вяршыні Сыёнскіх гораў, што, быццам вялікія ўзгоркі займаюць усю ваколіцу. Места разьмешчанае на гэтых узгорках, а белыя дамы на іх нагадваюць сьнег. Кажуць, што, калі ўзімку бываюць туманы, дык пры ўезьдзе ў места здаецца, што яно, запраўды, стаіць на воблаках.

І, вось, мы ў ягоным цэнтры, каля сьценаў старога места, пры ільвінай (ці першпакутніка Сьцяпана) браме. Насупраць яе грэцкая праваслаўная царква першпакутніка Сьцяпана й далей уніз ад яе да Кядронскага ручаю Аліўная гара, Гэтсыманія. Нязвычайна прыхожая гэтая Аліўная гара й цяпер ейны адхон пакрыты аліўкавымі дрэвамі.

У Гэтсыманскім гаі знаходзіцца лацінская царква страшных Госпадавых мукаў і камень, на якім Ён маліўся Айцу. Дарэчы, гэта адзінае, нажаль, мейсца, дзе нам пашчасьціла трапіць на літургію. Вельмі ўразіла, як калекі йз усяе плянэты прыяжджаюць сюды, каб дакрануцца да гэтага каменя. Зусім недалёка леваруч ад Гэтсыманіі грот, у якім звычайна спыняўся Ісус з вучнямі, калі прыходзіў у Ярузалім і пячора, у якой была пахаваная Божая Маці, ды адкуль Ейны Сын узьняў Яе ў целе на Неба.

Празь ільвіную браму ўваходзім у старое места й, прайшоўшы некалькі дзясяткаў крокаў, спыняемся каля мейсца, на якім, як сьветчыць надпіс, нарадзілася Божая Маці, ды якое належыць цяпер ярузалімскаму патрыярхату. Зусім блізка тамака-ж ведамая Батэзда, дзе цяпер знаходзіцца грэка-каталіцкая сэмінарыя й царква Сьв. Ганны. Між іншым рэха ў гэтай царкве ўнікальнае, у чым я змог пераканацца прасьпяваўшы "Апякунка хрысьціянаў бездакорная...".

Далей нашая дарога йшла да Via Dolorosa - Збаўцовага Крыжовага шляху. Перад тым мы зьвярнулі ў францысканскі кляштар, дзе раней была пілатавая прэторыя. Тут і мейсца бічаваньня, увянчэньня цернямі й вынясеньня сьмяротнага прысуду. Каб зразумець, дзе знаходзімся, замала тых колькі хвілінаў, якія маем - тут трэба было-б маліцца гадзінамі, а нават і днямі. Шкада, што на гэта не хапала часу падчас нашых вандровак.

Тое, што цяпер завецца Via Dolorosa нагадвае коўзанку, бо так блішчыць на сонцы адшліфаваная людзкімі нагамі каменная дарога шырынёю каля трох мэтраў. На шляху да Галгофы дарога праходзіць праз арабскія кварталы зь безьлічай тавараў і людзкой мітусьнёю - быццам пераносімся ў тую пару, калі па гэтых вузкіх вулачках, перапоўненых разнастайнымі людзьмі, добрымі й не, быў гнаны Божы Сын. Вось мейсца, дзе Збавец упаў пад цяжарам крыжа, а, вось, дзе Ён дакрануўся да каменя ў сьцяне дому. Цяпер у гэтым камяні, пасьля тысячагодзьдзяў людзкіх дакрананьняў, выява чалавечае рукі глыбінёю ў два пальцы.

Дарога паступова вядзе да галоўнага, найважнейшага мейсца - выбранага Богам Ахвярніка там, дзе Ной, паводле пераказу, пахаваў Адамаў чэрап. Галгофа ў сьвятыні Госпадавага Гробу. Раней, падчас будовы гэтае сьвятыні царыняй Аленай Галгофа была пад адкрытым небам, а ўжо пасьля была ўціснутая паміж сьцены й пад дах.

Цяпер там пад адным дахам знаходзяцца грэцкая праваслаўная, армянская й рыма-каталіцкая цэрквы. Але, як можна падзяліць тое, што належыць усім хрысьціянам. Зайшоўшы ў сьвятыню адразу ня ведаеш куды павярнуць і што дзе знаходзіцца. Зараз-жа каля ўваходу камянь мірапамазаньня, дзе Збаўцовае цела было пакладзенае пасьля таго, як Яго зьнялі з крыжа, і прыгатаванае на пахаваньне паводле юдэйскага звычаю. Камянь і цяпер высочвае міра.

Праваруч - узыход на Галгофу. Дзіўна - што для кожнага хрысьціяніна гэтая скала? Колькі людзей у сьвеце жадала-б быць на маім мейсцы? Якраз тут сустрэліся патрыярх Афінагор І і папа Павал VI, каб пасьля стагодзьдзяў варожасьці працягнуць адзін аднаму рукі. Дакрануўся й я з Божае ласкі да гэтага, абмытага Збаўцоваю Крывёю, мейсца.

А далей наш шлях ішоў туды, дзе завяршылася зямная місыя Чалавечага Сына й узноў зазьзяла Сонейка вечнага збаўленьня. Госпадаў Гроб - цяпер гэтая пячора прыйняла выгляд сьвятыні ў сьвятыні. Людзі розных веравызнаньняў, а таксама жыды, мусульмане ды нават няверцы, што прыходзяць паглядзець, мусяць пакланіцца Богу пры ўваходзе ў пячору. Маленькая каморка высячаная ў скале - так звычайна хавалі нябожчыкаў юдэі. Мейсца хапае, каб толькі пакласьці цела.

Што можна адчуць знаходзячыся ў ёй, ды яшчэ, калі ззаду напіраюць ды падганяюць, каб маглі прайсьці іншыя? Асабіста ў мяне думкі як быццам спыніліся, праз гэтых колькі хвілінаў прабую праз нешта падумаць і не магу. Вуснамі вымаўляю ўпрашаньне да Бога ўспомніць нашую Царкву, Бацькаўшчыну, Народ, а розумам знаходжуся як-бы ў сьне.

Далей, дакрануўшыся да вагню, які, паводле пераказу, штогод зыходзіць сюды на Пасху, ідзем да мейсца Збаўцовага зьяўленьня Марыі з Магдалу й усьлед па сходах уніз, туды, дзе царыняй Аленай быў знойдзены Госпадаў Крыж.

Вяртацца вельмі не хацелася - адчуваеш, што пакідаючы Ярузалім нешта траціш. Так і напрошваецца ўспамін Давідавага псальму: "... Ярузаліме, на твой як забыцца ўспамін, хай рукі ляпей мне адыйме...". Ад лішку ўражаньняў за гэты дзень круцілася галава, але на душы было так прыемна.

Падарожжа на поўнач краіны мы чакалі зь нецярплівасьцяй. Галілея - мяйсцовасьць, у якой Госпад пражыў большую частку Ягонага зямнога жыцьця, адсюль Ён пачаў ягонае служэньне, выбраў будучых апосталаў. Сэрца хвалявалася ў прадчуваньні сустрэчы йз скарбам, які спадзяюся захаваць на ўсё маё жыцьцё.

Нашая дарога йшла ўздоўж узьбярэжжа даволі доўгі час да самое старажытнае Кесарыі. Гэтым шляхам прайшоў, пакліканы сотнікам Карніліям, апостал Пётра зь Япіі, бо была Божая воля весьціць Слова й паганам. Ад былое Кесарыі, нажаль, амаль нічога не засталося, зусім блізка пабудаванае сучаснае места.

Адсюль пакідаем ўзьбярэжжа мора й наш шлях накіроўваецца па даволі зялёных узгорках Галілеі. Нашая мэта Назарэт, ці пагабрэйску Нацэрэт, таму й хрысьціянства на гэтай мове гучыць, як нацрут.

Перад тым, аднак, спыняемся ў значных для кожнага хрысьціяніна мейсцах, праз якія вядзе дарога ў места Сьв. Сям'і. Леваруч, зусім блізка ад сашы адкрываецца від на таёмны куток, што на мяне зрабіў моцнае ўражаньне, нешта там было неспакойнае. Гэта Армагедон, пагэбрэйску Ар - гара, Мэгіда - назоў гары. Але падобнае гэтае мейсца больш на вялікую роўню зь нявысокімі на ёй узгоркамі. Тут, згодна з Адкрыцьцём Яна Багаведа адбудзецца апошняе сутыкненьне вялікіх сілаў зла й дабра.

Далей, нажаль толькі здалёк, падзівіліся яшчэ на адну гару - гэта была гара зьмяненьня нашага Госпада Ісуса Хрыста. Сюды Госпад прывёў Пётру, Яна й Якуба, каб абьявіцца ім у Славе. Гара запраўды высокая й узыход на яе займаў, мабыць, не адну гадзіну. Здалёк яна роўная, як палова клуба, што ўкопаны ў зямлю. Дарэчы, пратэстанты лічаць, што гара, дзе было зьмяненьне, знаходзіцца ў іншым мейсцы.

Набліжаючыся да Галілейскае Каны, здалёк можна пабачыць чырвоныя купалы царквы, што пабудаваная на мейсцы, дзе, паводле Дабравесьці, Ісус на просьбу Ягонае Маці зрабіў першае чуда, ператварыўшы воду ў віно. Чырвоны колер купалоў сьветчыць аб тым, што тут адбываўся шлюб.

Дарэчы, Кана, калісьці значна большае за Назарэт места, цяпер ператварылася ў невялікае мястэчка, дзе заўсёды можна купіць добрае віно, у тым ліку й для літургіі. Царква, праз якую я згадаў, грэцкая праваслаўная, акрамя яе ў Кане ёсьць яшчэ дзьве рыма-каталіцкія. Адна з апошніх прысьвечаная Натанаілу, тому самому "запраўднаму Ізраільцяніну, у якім няма зламысьнасьці", што быў родам з гэтага места

Але вернемся да грэцкае царквы, бо якраз у ёй захоўваюцца дзьве каменныя судзіны на воду. Яны стаяць па абодвых баках царквы й на від даволі цяжкія. Самая царква невялікая й пабудаваная ў тыпова бізантыйскім стылі з даволі сучасным росьпісам, што нагадвае праз былыя там падзеі. Перад уваходам у сьвятыню сядзіць манах-вартаўнік, што, быццам, не зьвяртаючы на нас увагі моліцца па ружанцовай вяровачцы. Мы пакідаем яго ў супакоі й падаемся далей па дарозе ў Назарэт.

Нас сустрэла даволі шумнае, як і ўсе ўсходнія, места. На вуліцах людна, чутныя галасы гандляроў, зазывалаў ды сьпевы мусулманскага мулы. Нажаль, праблема дачыненьняў паміж хрысьціянамі й мусульманамі ў Назарэце стаіць даволі востра, распавядаюць нават праз сутычкі. Робіцца вельмі няпрыемна на душы, што ў гэтым мейсцы няма супакою.

У Назарэце шмат хрысьціянскіх цэркваў і манастыроў, але мы накіроўваемся да сьвятыні прысьвечанай самой Марыі, ці пагебрэйску Мірыям. Базыліка мае асаблівую архітэктуру, створаную італьянскім архітэктам. У сярэдзіне яна двухпавярховая, на першым паверсе захаваныя рэшткі дому, у якім жыла Божая Маці, а на другім самая царква. Па сьценах у сьвятыні і ў галярэі, што каля яе, разьмешчаныя абразы Найсьвятое Дзеўны падараваныя шматлікімі краінамі ўсяго сьвету. Кожны народ бачыць Марыю пасвойму, для чорных скурай - яна нягрыцянка, дзя азіятаў - вузкавокая прыгажуня. Былі абразы падараваныя Арменіяй, Грузіяй, Малдовай ды Украінай, толькі, нажаль, ня было падарунку зь Беларусі, а я шукаў.

Зусім каля базылікі зробленыя раскопы й можна на свае вочы пабачыць запраўдныя вуліцы старажытнага Назарэту. Аж сэрца замірае згадваючы, што па гэтых камянях хадзіў Сам Госпад. А праз мэтраў трыццаць пабудаваны кляштар Сь. Язэпа. На гэтым мейсцы жыла Сьв. Сям'я, бо тут быў Язэпаў дом. Ува ўбраньні сьвятыні шмат дрэва, дзівосныя вітражы й росьпіс. Маленькая сходня вядзе нас уніз, дзе рэшткі запраўднага тагачаснага гэбрэйскага дому. Значнае мейсца ў ім займалі цыстэрны на захоўваньне вады й купальня на ачышчэньне паводле ізраільскага закону.

Пакідаючы Назарэт мы доўга азіраемся назад, жадаючы запамятаць гэтыя мясьціны. У вокнах адзін за адным мяняліся краявіды Галілеі. Вось, недалёка відно мейсца, дзе жылі Якім і Ганна, да іх, мабыць, неаднойчы завітваў у наведы Хлопчык Ісус, а вось і ўзьбярэжжа Галілейскага мора, або, як яго завуць гэбрэі, возера Кэнэрэт, у якім зьверху прэсная вада, якою карыстаецца амаль увесь Ізраіль, а зьнізу салоная, як у моры.

Мінаем Мігдал, мейсца, зь якога была родам Марыя зь Мігдалу, або Марыя Магдаліна. Дарога вядзе ўніз на больш як дзьвесьце мэтраў ад узроўню мора, да ракі Ярдан.

Там шматлюдна й горача, быццам у парні. Рака шырынёю мэтраў зь дзесяць, зь нязвычайна зялёнага колеру вадою. Мейсца прытарнаванае на прыймо хросту. Зробленыя сходкі й зьезды на калецкія вязёлкі, выдаюцца белыя кашулі. Аднолькава апускаюцца ў воду й праваслаўныя й каталікі, ды пртэстанты. Тут адчуваеш нейкі ўнутраны супакой і радасьць.

Перапоўненыя задавальненьнем падымаемся ўгору па дарозе, каля якое пачынаюцца ўзгоркі, на адным зь якіх

## ПСАЛЬМ 103

Хвалуй, мая душа, Гаспадара:
Гаспадару й мой Божа, як вялік Ты,
Ахінен ў славу й веліч, бы ўва ўбрань
Й сьвятлом, як павалокаю акрыты.

Бы палатніцу неба Ты напяў,
Узьняў Твае быцені над дажджамі,
Ды за вязьліцы хмары паўпрагаў
Й на ветравых Ты крылах пахаджаеш.

Сабе ў ганцы Ты ветры абярнуў
Ды палымны агонь узяў слугою,
На ейнай цьвердзі ўмацаваў зямлю,
Каб не скаціцца зь мейсца ёй ніколі.

Ты шчодра водамі яе паліў,
Вышэй за горы што былі ўзьняліся,
Але на Твой загад удол пайшлі,
На громны грукат скорна падаліся.

Праз горы ды лагі яны сьцяклі
Туды, дзе мейсца Ты для іх пакінуў
Ды межы ім паставіў на вякі,
Каб больш зямлі яны не затапілі.

Ў лагах крыніцам Ты бруіць сказаў
Ды борзда ўдаль плысьці паміж грудамі,
Яны пітво даюць лясным зьвярам,
Дзічкі-аслы зь іх смагу спаталяюць.

На берагах там птушкі ўскрозь жывуць
І з дрэваў песьні іхныя сьпяваюць,
З Твайго быценю росіш Ты ральлю,
Зямля ўнасыць Твой шчодры дар ўпівае.

Траву Ты росьціш, статак каб карміць
І зель на ўсе патрэбы чалавеку,
Каб хлеб сабе здабыў ён ізь зямлі
Й віно яму для сэрца на пацеху.

Й алей яшчэ на пабліск масьціць твар
Ды ежу ўсю на цела ўзмацаваньне
Баговы дрэвы дзель пьюць іхню там,
Кядры, што насадзіў Ты у Лібане.

Там іхныя гнязьдзечкі птушкі ўюць
Й на дрэве бусел з году ў год гнязьдзіцца,
Казулі ў горах стадамі жывуць
Й зайцам паміж каменьня ёсьць дзе крыцца.

Значыць бег часу месяц Ты стварыў
І сонца ведае калі заходзіць.
Як сьцелеш цемнь, ноч настае тады
Й зьвяр'ё, што ў лесе, з логаваў выходзіць.

Йльвянятаў за спажывай рык чутны,
Як корму ў Бога для сябе ўпрашаюць,
А ўзыйдзе сонца йдуць у гушчары
Ды на спачын у логавы вяртаюць.

А чалавек да працы йдзе тады
І робіць покуль вечар ўрэшт настане;
Гаспадару, як шмат Ты ўскрозь стварыў,
Як мудра Ты ўсё чыста ў сьвеце справіў.

Твайго багацьця поўная зямля
Ды мора, вунь, буйное ўдоўж і ўшыркі,
Кішыць ў ягонай глыбіні мнажня
Жывых стварэньняў дробных і вялікіх.

Сюды й туды там споўдаюць плыўны,
Ў вадзе дзівоцьці розныя гуляюць
Ды на Цябе здаюцца ўсе яны,
Ў пару каб даў ім іхны корм чакаюць.

Як Ты даеш, яны яго бяруць
І сыцяцца, далонь як адчыняеш,
А лік адвернеш ў роспач упадуць
Й як адбярэш ім подых паміраюць.

Ды распадаюць зноў у парахнеч,
Зь якое насамперш усе ўзяліся,
Стараюцца-ж, калі Твой Дух пашлеш
І абнаўляецца зямлі аблічча.

Хай Гаспадарня слава будзе ўсьцяж
І ўсё, што Ён стварыў, хай ўпадабае;
Як Ён зірне ўся зыблецца зямля
І дымяць горы, іх як Ён кранае.

Пяяць я буду век Гаспадару
І граць Яму, на сьвеце колькі жыцьму,
Ўспадобу прыйдзе песьня хай Яму,
А мне на радасьць Гаспадар век быцьме.

Ўдазвань хай зьнікнуць грэшнікі зь зямлі
І ўсе начыста злыднікі зьвядуцца!

Хвалуй, мая душа, Гаспадара!

## НА СЬВЯТОЙ ЗЯМЛІ

(ПРАЦЯГ З 4-Е БАЧЫНЫ)

прыпыняемся. Колькі крокаў уверх і мы на мейсцы нагорнае Хрыстовае пропаведзі. Няверагоднае прыгаство, маляўнічыя краявіды, мейсца выбраньня дванаццаці апосталаў, тут такая цішыня й супакой, што гатовы сядзець нярухома гадзінамі. Велічная й прыгожая сьвятыня сярод пальмаў пабудаваная як ратонда йз шматлікімі калёнамі ў сярэдзіне, ня мае ніякіх росьпісаў, затое ў сьценах шмат вокнаў, каб дзівавацца з краявіду.

І ўзноў спускаемся ўбок да Галілейскага мора, узноў невялікі ўзгорак з прыгожай сьвятыняй і кляштарам. Гэта Табхі, мейсца сямі крыніцаў - тут Госпад памножыў хлеб і рыбу. У невялікім надворку перад царквою басэйн з рыбкамі, вельмі сымбалічна й прыгожа.

Самая царква падобная на сярэднявечную залю йзь сьціплай прыгажосьцяй. Пабудаваная ня вельмі даўно, але падлога й падмуркі старажытнае бізантыйскае сьвятыні V-га стагодзьдзя. Царква належыць да рымакаталікоў, але перад алтарнай часткай і амбонам стаяць абразы Божае Маці й Збаўца ўва ўсходнім стылі, старанна захоўваюцца старажытныя фрэскі й мазаіка на падлозе. Пад алтаром кавалак запраўднае чорнае пароды, на якім, лічыцца, і адбыліся ўсе дзеі.

Падзякаваўшы Богу за Ягоныя шчодрасьці да нас, накіроўваем наш шлях да Галілейскага мора, каб уявіць сабе, як на гэтых камяністых берагах звычайныя рыбары Шымон, Якуб ды Ян правілі мераджы ды марылі праз свабодны Ізраіль, не разумеючы таго, што на гэтых берагах знойдуць запраўдную Свабоду.

Яшчэ раз дзякуем Богу за Ягоную вялікую да нас Ласку.

*Вячаслаў Казелька*

# ВОЙТАНКІ - РОД АЎТАКЕФАЛІСТАЎ

Сьветкам абвешчаньня аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы ў 1942-м годзе й узнаўленьня Ейнае дзейнасьці ў 1948-м ведама, што да збыцьця гэтых гістарычных падзеяў у вялікай меры спрычыніліся Войтанкі - айцец Сцяпан і ягоныя сыны, а. доктар Віктар ды Мікалай. Папраўдзе кажучы, бязь іх узнаўленьня дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў 1948-м годзе ня было-б. Ня было-б яго, можа й, каб жыцьцёвымі спадарожніцамі гэтых будаўнікоў аўтакефаліі ня былі адданыя нашай царкоўнай Справе матухны Філямэна й Марыя, ды спадарыня Ганна Войтанка.


Айцец Сьцяпан Войтанка


Айцец Віктар Войтанка

Паводле жыцьцёвых законаў сьветкаў дзейнасьці Войтанкаў застаецца ўсё менш і менш, дык, як адзін з апошніх спаміж іх, спрабую тут згадаць сьветлыя постаці гэтых шчырых працаўнікоў на Божай і нацыянальнай ніве, што ўпісалі слаўныя бачыны ў летапіс гісторыі нашае Царквы.

## АЙЦЕЦ МІТРАФОРНЫ ПРАТАЯРЭЙ СЬЦЯПАН ВОЙТАНКА

Айцец Сьцяпан нарадзіўся 10-га лістапада 1886-га году ў сялянскай сям'і Парфірага й Еўфрасіньні Войтанкаў у сяле Астапкаўцы на Украіне.

Малая гаспадарка, на якой гадавалася пяцёра дзяцей, прымусіла яго змалку прабіваць дарогу ў будучыню здабываючы асьвету, сьпярша ў 1903-м годзе скончыўшы двохклясавую школу, а ў 1907-м здаўшы экзамены міністэрства народнае асьветы спачатку на настаўніка сьпеву ў пачатковых, а пасля й матэматыкі ў г.зв. "гарадзкіх" школах.

Гэтыя асягненьні й вызначылі ягоную будучыню, бо на настаўніцкую працу ён быў накіраваны ў парахвіяльную школу ў Карыцы-Рыбках, Наваельненскае парахвіі, Навагрaдзкага павету, на Беларусі.

З тае пары ягонае жыцьцё павязанае з нашай Бацькаўшчынай, перш ў ейных межах, а пасьля й на чужыне.

Гэтая повязь памацнела яшчэ, калі ў 1910-м годзе ён ажаніўся зь Філямэнай Рахавецкай, разам зь якой узгадаваў двох сыноў і дачку нятолькі на пабожных патрыётаў, але й на дзеячоў беларускага рэлігійнага й нацыянальнага адраджэньня.

Ў 1912-м годзе Сьцяпан Войтанка здае пры Гарадзенскай Кансысторыі экзамен на дыякана й колькі часу працуе настаўнікам у Бераажках, займаючы разам дзякоўскае становішча ў Зэльвянскім Саборы.

У пачатку першае сьветняе вайны быў змабілізаваны ў 6-ты корпус расейскае арміі, дзе выконваў абавязкі пісара пры транспартным абозе падчас баёў у Прусіі, Польшчы й Галіччыне.

Пасьля лютаўскае рэвалюцыі ў 1917-м годзе, паводле загаду Керанскага, як настаўнік, звальняецца з войска й накіроўваецца да сям'і, што была эвакуаваная ў Бабёр, Сеньненскага павету на Віцебшчыне.

Там ён у 1917-м годзе працуе настаўнікам у вёсцы Худаўцы, у 1918-м у Сакаловічах, а ў 1918-м у Шаўрах.

У пачатку 1919-га году варочаецца на ранейшае мейсца ў Зэльвянскім саборы, але неўзабаве здае пастырскія экзамены й атрымоўвае сьвятарскае ўсьвячэньне ад Гарадзенскага япіскапа Уладзімера.

Пастырскія абавязкі пачаў выконваць, абняўшы, зь нястачы сьвятароў, разам парахвіі ў Міжэвічах й Пераваладцы, Слонімскага павету.

У 1922-м годзе, на собскае жаданьне, атрымоўвае прызначэньне на парахвію ў Дварцы, Навагрaдзкага павету.

Парадкі ў Праваслаўнай Царкве пад польскай акупацыяй былі, аднак, такія, што даводзілася, прыблізна што пяць год, пераяжджаць у іншае мейсца й, гэткім чынам, айцец Сьцяпан быў пазьней на парахвіях ў Жалезьніцы й Ястраблі, Баранавіцкага, ды Марозавічах, Навагрaдзкага павету.

Апрача нясталасьці мейсца побыту, у 30-х гадох зьявілася новая цяжкасьць у пастырскай працы, а быў ёю моцны націск польскае акупацыйнае ўлады на абяртаньне беларускіх вернікаў у праваслаўных палякаў.

Не засталася бяз увагі чужых царкоўных ды дзяржаўных уладаў таксама й дзейнасьць старэйшага сына Віктара ў Беларускім Студэнцкім Саюзе пры ўнівэрсытэце ў Вільні.

Зьнеахвочаны ўсімі гэтымі прыкрасьцямі айцец Сьцяпан падаецца на спачын і ў 1938-м годзе пераяжджае на атрыманую матухнай Філямэнай у спадчыне па бацьках гаспадарку ў Мачульне, Навагрaдзкага павету, на якой працуе разам із малодшым сынам Мікалаям.

Надоўга зьведаць супакою не давялося, аднак, і на сваім кавалку зямлі, бо неўзабаве прыйшлі Саветы, а зь імі й бязьмерныя падаткавыя спагнаньні, як з кулака, ды пагроза арышту й вывазу на засланьне.

Коратка трывала й зацішша пад нямецкай акупацыяй, бо ўжо год пасьля ейнага пачатку размножыліся г.зв. партызаны, што, мала шкодзячы немцам, тэрарызавалі, грабілі й забівалі мірнае беларускае насельніцтва.

Ад іхных пагрозаў і рабункаў давялося ўцякаць да старэйшага сына Віктара, што быў сьпярша ў Баранавічах, а пасьля ў Слоніме.

Улетку 1944-га году, ня хочучы узноў апынуцца пад савецкай уладай, а. Сьцяпан із усёю сям'ёю выехаў у паўдзённую Нямеччыну.

Калі пасьля капітуляцыі Нямеччыны беларускі праваслаўны япіскапат далучыўся да Расейскае Зарубежнае Царквы, сямья Войтанкаў нятолькі, як і ўсё беларускае грамадзтва, была абураная гэтым здрадным учынкам, але й, кіруючыся парадамі а. Сьцяпана, пачала шукаць спосабу, як гэтае нацыянальнае бяды пазбыцца.

Гэткім чынам дайшло да дамовы з архіяпіскапам Сяргеям і да ўзнаўленьня дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Саборы ў Канстанцы, удзельнікам якога быў айцец Сьцяпан.

Усьлед пасьля Сабору а. Сьцяпан зарганізаваў першую парахвію БАПЦ на чужыне ў Цюбінгэн, што ў Вюртэмбэргіі, а ў 1949-м ачоліў парахвію БАПЦ ў лягеры ўцекачоў у Мюнсінгэн, таксама ў Вюртэмбэргіі.


Мікалай Войтанка

Ён таксама ўваходзіў у склад кіраўніцтва ўзноўленае БАПЦ.

Улетку 1950-га г., з увагі на перасяленьне беларускіх уцекачоў за акіян, а, Сьцяпан зь сям'ёю выяжджае ў ЗША й асяляецца ў ваколіцы Нью Бранзвіку, што ў штаце Нью Джэрсы, дзе ў пачатку 1951-га г. засноўвае парахвію БАПЦ імя Жыраўскае Іконы Божае Маці.

Пад ягоным кіраўніцтвам Парахвія спачатку малілася ў наймятым памешканьні, а ў 1965-м годзе купіла царкоўны будынак з плябаняй у Гайлэнд Парку. Н. Дж., дзе дзее й да сёньня.

Яшчэ ў 1959-м годзе Гайлэнд Паркская парахвія купіла могільнік у Іст Бранзвіку, на якім знаходзяць апошні спачын нятолькі вернікі БАПЦ, але й дзейныя, або сьведамыя беларусы іншых веравызнаньняў.

Апрача парахвіяльнага, а. Сьцяпан браў далей дзейны ўдзел і ў агульнацаркоўным жыцьці, займаючы ад І-га Сабору БАПЦ Амэрыкі й Канады аж да ягонае сьмерці становішча старшыні Япархіяльнае Ўправы.

Памёр а. мітрафорны пратаярэй Сьцяпан Войтанка 26-га чырвеня 1968-га году ў Самэрсэт, Н.Дж. і пахаваны на парахвіяльных могілках у Іст Бранзвіку.

## АЙЦЕЦ ВІКТАР ВОЙТАНКА

Прышлы айцец Віктар нарадзіўся 6-га лістапада 1912-га году ў настаўніцкай сям'і Сьцяпана й Філямэны Войтанкаў ў Мачульне, Наваградзкага павету.

Ягонае раньняе дзяцінства прайшло ў Сеньненскім павеце, Віцебскае губэрніі, куды сям'я была высяленая ў выніку водступу расейскае арміі падчас першае сьвет-няе вайны.

Вярнуўшыся зь бежанства ён скончыў пачатковую школу ў мястэчку Дварэц, дзе ў той час ягоны бацька, стаўшы сьвятаром, быў на парахвіі.

Сярэднюю асьвету здабыў у польскай гімназыі імя Тадэвуша Рэйтана ў Баранавічах.

У 1931-м годзе здаў уступны экзамен на мэдычны факультэт Вільнянскага Унівэрсытэту.

Стаўшы студэнтам ён адразу далучыўся да Беларускага Студэнцкага Саюзу й браў дзейны ўдзел нятолькі ў жыцьці гэтае арганізацыі, але й у агульнай беларускай нацыянальнай дзейнасьці пад польскім займом.

Пасьля сканчэньня ўнівэрсытэту, у 1937-м годзе ажаніўся йз студэнткай філялёгіі Марыяй Хіневіч.

У тым самым годзе быў пакліканы на службу ў польскім войску.

Вярнуўшыся з войска, здаў у Вільні экзамен на лекарскі дыплём.

Ледзь пачаўшы лекарскую практыку, у 1939-м годзе быў змабілізаваны на франтавога лекара польскае арміі.

Пасьля займа Заходняе Беларусі Савецкім Саюзам працаваў лекарам у Баранавічах.


Леанід Войтанка

З пачаткам нямецкае акупацыі ў 1941-м годзе бярэцца выкарыстоўваць магчымасьці беларускае нацыянальнае працы.

З гэтай мэтай абыймае становішча старшыні места, а таксама арганізуе Беларускую Самапомач.

Аддае шмат увагі на ўстанаўленьне аўтакефаліі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, аб чым дакладней напісана ў ягоным успаміне, што зьмешчаны на 9-11 бач. гэтага нумару "Царк. Пасланца".

Каб захаваць моладзь ад вывазу на прымусовую працу ў Нямеччыне, засноўвае ў Баранавічах мэдычную школу.

Разам з гэтым служыць людзям і лекарскай апекай.

Нацыянальная актыўнасьць дра. Віктара Войтанка выклікала, аднак, у немцаў падозраньні й у другой палове 1943-га году яны пераносяць яго на становішча акруговага лекара ў Слоніме.

На новым мейсцы ён таксама не абмежваецца адно мэдыцынскай практыкай, але й улучаецца ў нацыянальтную дзейнасьць, што была там даволі шырака разгорнутая.

Даўжэй праводзіць гэтую дзейнасьць, аднак, не давялося, бо ўлетку 1944-га году наблізілася савецкая армія й др. Войтанка зь сям'ёю быў эвакуаваны ў Нямеччыну, дзе да капітуляцыі працаваў лекарам для чужынцаў у Альтгаўзэне, што ў Вюртэмбэргіі.

Пасьля капітуляцыі Нямеччыны ён адразу зарганізаваў і ачоліў адзіны ў францускай зоне беларускі камітэт у тым-жа Альтгаўзэне.

Нажаль, камітэт праіснаваў адно два, ці тры месяцы, пасьля чаго др. Войтанка быў накіраваны на лекарскую працу ў Сальгаў і, безь ягонага павадырства, у камітэце ўзялі верх хісткія нацыянальна людзі й "тоже белоруссы" ды зачынілі гэтую карысную арганізацыю.

Ня гледзячы на закрыцьцё камітэту, беларуская нацыянальная дзейнасьць у францускай зоне ня спынілася й др. Войтанка быў чалавекам вакол якога яна гуртавалася.

У пачатку 1947-га году францускую зону наведаў прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык і, пасьля сустрэчы зь беларускім грамадзтвам, паклікаў першых радных БНР, у тым ліку й дра. Войтанка.

З гэтага й пачалася запраўдная палітычная дзейнасьць беларускае эміграцыі ў вольным сьвеце.

Апрача палітычнае дзейнасьці, др. Войтанка рупеўся й праз узгадаваньне беларускае моладзі ды працаваў у арганізацыі беларускага скаўтынгу у францускай зоне.

Найбольш увагі й працы прысьвяціў ён, аднак, на ўзнаўленьне дзейнасьці Праваслаўнае Беларускае Аўта-

кефальнае Царквы, япіскапы якое, апынуўшыся ў замежжы, зрадніцка далучыліся да Расейскае Зарубежнае Царквы.

Др. Войтанка быў тым чалавекам, што дамовіўся зь Япіскапам УАПЦ Сяргеям, каб той часова ачоліў узноўленую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву й ён зарганізаваў у 1948-м годзе ў Канстанцы Сабор, на якім гэтае ўзнаўленьне было абвешчанае, аб чым напісана ўва ўспомненым ужо ягоным успаміне ды ў ранейшых матарыялах у "Царкоўным Пасланцы".

З выяздам беларускае эміграцыі зь Нямеччыны ў заморскія краіны й др. Войтанка падаўся за акіян ды асяліўся ў ЗША, дзе сьпярша працаваў лекарам у лячэўні, а пасьля адчыніў яшчэ й прыватную практыку.

Але, упоравень зь лекарскаю практыкаю, ягоным жыцьцёвым прысьвячэньнем была беларуская нацыянальная праца, ды ў ёй умацаваньне й пашырэньне узноўленае БАПЦ.

Гэтай мэце аддаваў ён свае сілы ды вольны ад працы час, бяручы дзейны ўдзел у арганізацыі царкоўнага жыцьця й кіраўніцтва, ды ў выдавецкіх спробах.

Ён быў нават купіў у штаце Нью Джэрсы, названае ім Мір лецішча, дзе мяркаваў заснаваць манастыр БАПЦ.

Пасьля сьмерці ягонага бацькі, Айца Сьяпана, др. Войтанка наважыў узяць на сябе крыж сьвятарскае службы й 1-га чырвеня 1969-га году быў усьвячаны Архіяпіскапам Васілём у сьвятарскую годнасьць.

На гэтым становішчы ён выявіў сябе як выдатны прапаведнік, заладнік царкоўных патрэбаў ды лучнік з раськівданымі па сьвеце вернікамі БАПЦ.

Нажаль, працаваць на Божай ніве пашчасьціла яму адно тры гады, бо 25-га красавіка 1972-га году ўва ўлюбаваным ім Міры нечакана спынілася ягонае сэрца.

Пахаваны а. Віктар Войтанка на беларускім праваслаўным могільніку ў Іст Бранзвіку, Н.Дж.

Дзедавую й бацькавую службу Богу й Беларусі быў паймкнуўся прадоўжыць сын а. Віктара, Расьціслаў, што, усьвячаны ў сьвятарскую годнасьць, у канцы 1981-га й пачатку 1982-га году выконваў абавязкі кіраўніка парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Нажаль, абавязкі адвакацкага зайнятку, перашкодзілі яму служыць у царкве й ён зусім адыйшоў ад БАПЦ.

## МІКАЛАЙ ВОЙТАНКА

Другі сын, тады настаўніка, Сьцяпана Войтанка й ягонае жонкі Філямэны, Мікалай, нарадзіўся 20-га сакавіка 1915-га году ў Мачульне, Наваградзкага павету.

З прычыны вайны, што йшла ў той час, ягоны бацька быў пакліканы ў расейскае войска, а сям'я неўзабаве эвакуаваная ў Сеньненскі павет, Віцебскае губэрніі, адкуль вярнулася дамоў ажно ў 1919-м годзе.

У тым самым годзе ягоны бацька атрымаў сьвятарскае усьвячэньне й пачаў службу на Божай ніве на парахвіях у Наваградзкім ваяводзтве.

Там Мікалай падрастаў і сталеў, а калі прыйшла пара здабыў сярэднюю асьвету ў Баранавічах ды тамсама служыў у кавалерыі польскага войска.

Пасланы на фронт у пачатку польска-нямецкае вайны ў 1939-м годзе, апынуўся ў палоне, адкуль у замене на нямецкіх грамадзянаў быў зь іншымі беларусамі перададзены саветам, але зь недаверу да іх уцёк з транспарту й пешкі тайком вярнуўся дамоў у Мачульна.

Новая ўлада, аднак, не дазволіла яму спакойна ладзіць жыцьцё, а, залічыўшы да "клясава шкоднага элемэнту", паслала на прымусовую працу пры будове ваеннага лётава ў Бельску, каля Беластоку.

Пачатак нямецка-савецкае вайны ў 1941-м годзе ўзноў дазволіў вярнуцца дамоў ды зайняцца гаспадаркай.

СЬВ. ПАМ.



**ЛЕАНІД ВОЙТАНКА**

**17.XII.1959 - 26.I.2000**

ШЧЫРА ПАБОЖНЫ ВЕРНІК І АЛТАРНІК ПАРАХВІЯЎ БАПЦ Ў ГАЙЛЭНД ПАРКУ Й БРУКЛІНЕ, БЫЛЫ СЯБРА ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ МОЛАДЗІ, АДЫЙШОЎ ПАСЬЛЯ ЦЯЖКОЕ ХВАРОБЫ У ЛЕПШЫ СЬВЕТ, ПАКІНУЎШЫ Ў СУМЕ ЖОНКУ ЗЬ ДЗЬВЯМА ДАЧКАМІ, МАЦІ Й СЯСТРУ ЗЬ СЯМЬЁЮ, ДЫ СВАЯКОЎ, ПРЫЯЦЕЛЯЎ І ЗНАЁМЫХ.

Але жыць спакойна даўжэй і гэтым разам не давялося, бо неўзабаве ўзьняўся г.зв. партызанскі рух і, як "кулак ды вораг народу", у 1943-м годзе ён мусеў зь сямьёю ратаваць жыцьцё, падаўшыся да брата Віктара ў Слонім.

Адтуль улетку 1944-га году, перад паўторнай савецкай акупацыяй, яму пашчасьціла эвакуавацца ў Нямеччыну.

Цяжка адпрацаваўшы да нямецкае капітуляцыі на гаспадарцы ў баўэра, Мікалай Войтанка пасьля яе пачаў вывучаць эканоміку на Цюбінгенскім унівэрсытэце.

Разам з гэтым ён рабіў усё магчымае, каб наладзіць беларускае арганізацыйнае жыцьцё ў француcкай акупацыйнай зоне Нямеччыны, дзе жыў.

Найбольш, аднак, ахвярнасьці й вытрываласьці ён прысьвяціў на узнаўленьне дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Бо, калі др. Віктар Войтанка займаўся шырака-арганізацыйнымі царкоўнымі справамі, а а. Сьцяпан рыхтаваў пачатак душпастырскае дзейнасьці, рабіць пабожныя намеры запраўднасьцяй даводзілася Мікалаю Войтанку.

Нятолькі бо да арганізацыі ў 1948-м годзе Сабору ў Канстанцы, дзе быў удзельнікам, ён шмат чым далажыўся, але й пасьля таго рупеўся, каб узноўленая БАПЦ мела дзейныя парахвіі.

Вынікам гэтае рупнасьці, што, між іншых справаў, абыймала здабываньне, перахоўваньне й разстаўляньне царкоўнага ўладжаньня перад кожнай адправай, ды складаньне пасьля, было адкрыцьцё парахвіі БАПЦ у Цюбінгэн, а пасьля, у повязі зь пераездамі ўцекачоў, ейны перанос і дзейнасьць у Мюнсынгэн.

Калі ў канцы 40-х і пачатку 50-х гадоў зьявіліся магчымасьці эміграцыі, Мікалай Войтанка зь сям'ёю падаўся ў ЗША і гэтта, не зважаючы на пачатныя цяжкасьці жыцьця, адразу ўзнавіў ягоную нацыянальна-грамадзкую дзейнасьць.

Цэнтрам ягонае дбайнасьці й ахвярнасьці была, аднак, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква наагул і Ейная парахвія ў Нью Бранзвіку/Гайлэнд Парку.

Дзякуючы ахвярнай дзейнасьці й працоўнай вытрываласьці ў немалой меры самога Мікалая ды іншых адданых справе людзей, пасьля пачатных цяжкасьцяў, як адно, гэтак і другое пачало наладжвацца, ды расьці.

У агульнацаркоўным жыцьці арганізацыйная пара завяршылася ў 1972-м годзе ўзнаўленьнем Беларускае Мітраполіі, а ў дзейнасьці Гайлэнд Паркскае парахвіі прыдбаньнем раней могілак і царкоўнага будынку.

У здабыцьці гэтых асягненьняў, займаючы становішчы ў кіраўных мітрапалітальных і парахвіяльных органах, упярэднім дзеячам быў Мікалай Войтанка.

Памёр ён 22-га ліпеня 1996-га году й пахаваны на беларускім праваслаўным могільніку ў Іст Бранзвіку.

Нажаль, узгадаваны ў пабожнасьці сын сьв. пам. Мікалая й Ганны Войтанкаў, Леанід, што скончыўшы вышэйшыя студыі, наважыў стаць сьвятаром, пасьля цяжкое хваробы адыйшоў служыць ля Найвышняга Пасаду, ды гэткім чынам зачыніўся слаўны разьдзел упісаны Войтанкамі ў гісторыю БАПЦ. *Барыс Данілюк*

## НА ШЛЯХУ ДА АЎТАКЕФАЛІІ

*Ад Рэдакцыі: Ніжэй друкуем нядаўна знойдзены ўспамін сьв. пам. а. др. Віктара Войтанка - выдатнага беларускага царкоўнага й нацыянальнага дзеяча, што ў вялікай меры спрычыніўся да абвешчаньня ў 1942-м годзе аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне ды ўзнаўленьня Ейнае дзейнасьці за мяжою ў 1948-м.*

*Нажаль, паводле свомага нам навыку абыходжаньня з нашай спадчынай, ягоны архіў дакумэнтаў, што датычылі апісаных ім гэтта й іншых гістарычных падзеяў, відаць, загінуў і зьмешчаны ніжэй зьвест (даклад) на адзначэньне ў 1972-м годзе 50-х угодкаў першага абвешчаньня аўткефаліі - адзіны сьлед, што застаўся па тым багацьці.*

Буду казаць тут праз падзеі ў беларускім царкоўным жыцьці, сьветкам, а часта й удзельнікам якіх мне давялося быць, успамінаючы, дзе магчыма людзей, што мелі дачыненьне, або бралі ў іх удзел.

Напачатак хачу згадаць становішча Праваслаўнае Царквы ў Польшчы пасьля І-е сьветняе вайны, якое мне, як сьвятаровому сыну, выпала нятолькі зблізка назіраць, але й з болям зьведаць.

Вайна пакінула па сабе сотні апусьцелых парахвіяў - шмат дзе адзін сьвятар абслугоўваў 4-5 парахвіяў. Неаднойчы ён мусеў хрысьціць адразу па дзесяцёра дзяцей, або даваць шлюб некальнім парам.

Сталася гэта таму, што адступаючая царская армія мела азыяцкі загад выганяць усё насельніцтва ў глыб імпэрыі й паліць, ды разбураць усю майнасьць і ўладжаньні, што заставаліся ў краі. Сьвятары таксама мусели пакідаць іхныя парахвіі нятолькі, каб даць прыклад насельніцтву, але й пад пагрозай казацкае нагайкі, што не ўшанавала-б і сьвятарскае годнасьці.

Гэта й было адной з прычынаў, што пасьля вайны й вяртаньня насельніцтва зь бежанства выявілася вялікая нястача сьвятароў й горадзенскі архіяпіскап Уладзімер амаль на кожнай адправе ўсьвячаў новых сьвятароў, пасылаючы іх няраз амаль бязь ніякае духоўніцкае падрыхтоўкі на парахвіі, бо яны былі патрэбныя, каб ратаваць і адбудоўваць царкоўнае жыцьцё.

Нажаль кандыдатаў ісьці ў сьвятарскі стан зь мяйсцовых людзей было вельмі мала. Затое былыя царскія ўрадаўцы, ахвіцэры й наагул расейскія ўцекачы запоўнівалі калідоры япіскапскага дому й прасіліся, каб іх уладзіць. Уладыка Уладзімер, як добры расейскі патрыёт, ахвоча памамагаў людзям свае нацыі - каго ўсьвячаў, каго пасылаў служыць дзяком, а каго ўладжваў урадаўцам у горадзенскай кансысторыі.

Гэткім чынам сталася так, што Праваслаўная Царква ў Польшчы, хоць паводле складу вернікаў амаль цалком беларуска-украінская, апынулася пад шавіністычнаю ўладаю расейцаў з паходжаньня, або перакананьня.

Архіяпіскап Уладзімер у Горадні быў, аднак, нядоўга, бо, не схацеўшы далучыцца да Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, неўзабаве выехаў за мяжу.

На ягонае мейсца быў прызначаны архіяпіскап Аляксей (Грамадзкі) - украінец з паходжаньня, ды расеяц паводле сьведамасьці.

Але, папраўдзе кажучы, каб на ягоным мейсцы быў і добры беларус - няшмат ён змог-бы зрабіць для нашага Краю, бо нятолькі горадзенскае ды ўсе іншыя япархіяльныя кіраўніцтвы, але й ўлада над мітраполіяй у Варшаве была абнятая расейскімі манархістамі.

Палякі доўга ня ведалі што рабіць з расейцамі, што ўзялі ўладу ў Праваслаўнай Царкве. Толькі ў 1936-м годзе ў іх зьявілася думка стварыць рух праваслаўных палякаў, што ажно ў 1938-м пературвырыўся ў зарганізаваную форму.

Але й у ім кіраўніцтва абнялі раптам самааб'яўленыя польскімі патрыётамі тыя-ж расейскія шавіністы, што былі ўладзіўшыся на польскія ўрадавыя пасады.

Мне самому першы раз выпала зайняцца беларускімі царкоўнымі справамі ў пачатным годзе навукі на ўнівэрсытэце ў Вільні.

Перад угодкамі 25-га сакавіка ў 1931-м годзе Беларускі Студэнцкі Саюз выправіў мяне, як больш знаёмага з царкоўнымі парадкамі сьвятаровага сына, з просьбай да архіяпіскапа Хвядоса ў Сьвята-Духавы манастыр, каб той загадаў адправіць малебны з нагоды нашага нацыянальнага сьвята ў цэрквах Вільнянска-Лідзкае япархіі.

Папярэднімі гадамі хадзіў у гэтай справе Сяргей Сарока, але яму даводзілася падаваць просьбу на пісьме праз нейкага манаха, бо сам архіяпіскап быў заўсёды занадта заняты, каб яго прыйняць.

Пайшоўшы гэтым разам мы такі дамагліся, каб ён прыйняў нас, ды выслухаўшы просьбу прыабяцаў выслаць да ўсіх кіраўнікоў (настаяцеляў) парахвіяў абежнік з наказам адправіць, дзе магчыма, гэткі малебен.

Нажаль, нашае асягненьне было вельмі кароткае. бо таго-ж вечара да вушэй аднаго йз "тоже белоруссов" дайшла вестка, што архіяпіскап згадзіўся здаволіць нашую просьбу.

Быў ім, здаецца, Вярнікоўскі, што ўначы прыбег да ўладыкі й, грукнуўшы кулаком па стале, пачаў крычэць, як ён сьмеў гаварыць з камуністамі?, як ён сьмеў нешта абяцаць беларускім студэнтам? - ніякага абежніка, ані малебнаў!

Гэтак зрабіў беларус іншага палітычнага перакананьня толькі таму, што Студэнцкі Саюз вёў неягоную беларускую палітычную лінію. Гэта было пад польскім панаваньнем, але падобныя справы робяцца паміж беларусамі й тут, у вольнай Амэрыцы.

Мне даводзілася хадзіць да ўладыкі Хвядоса яшчэ шмат разоў. Пасьля мяне хадзіў і др. Мікалай Шчорс.

Раз атрымалі дазвол адслужыць малебен у старой Сьв. Мікалаяўскай царкве ў Вільні, пабудаванай Канстанцінам Астрожскім, ведамым літоўскім гэтманам і абаронцам Праваслаўя ў пару пачаткаў вуніі.

Усе просьбы й хаданьні за загад на пропаведзі пабеларуску ў Вільнянскай япархіі былі бескарыснымя. Нічога яны не далі й у Горадзенскай япархіі.

Становішча было такое, што ўсе царкоўнікі ў Заходняй Беларусі былі расейскімі імпэрыялістамі, калі не з паходжаньня дык зь перакананьня. Варта ўспомніць, што выдаваны Мітраполіяй часапіс "Воскресное Чтеніе" быў выдатна расейскім вяліка-дзяржаўніцкім ворганам.

Нікому зь беларусаў ня было доступу нават у царкоўныя папячыцелі ў важнейшых местах, а селянін, што трапляў на царкоўнае становішча ў вёсцы, мусеў вельмі хутка русыфікавацца, каб прыпадабацца бацюшку.

Таму няма дзіва, што, калі ў 1941-м годзе прыйшлі немцы, у нас ня было патрыятычна настроеных людзей, якія хоць крыху ведалі царкоўныя законы й парадкі. Затое было поўна "тоже белоруссов", што былі горшыя недзялімцы за запраўдных расейцаў.

А немцы адно толькі што й дазволілі рабіць беларусам - гэта адбудоўваць сваю царкву. Усё чыста іншае, ад школаў да паліцыі было пад поўным наглядам і забаронаю.

Першыя крокі да адбудовы аўтакефаліі зрабіў др. Мікалай Шчорс, калі яшчэ быў старшынём Беларускага Камітэту ў Варшаве. Ён дастаў ад мітрапаліта Дэяніса двох ярамaнахаў беларускага паходжаньня й падрыхтаваў іх да выязду ў зайнятую немцамі Беларусь, а таксама дамовіўся зь мітрапалітам Панцялейманам (Ражноўскім) на ўсьвячэньне абодвых у першыя, быццам запраўды,

беларускія япіскапы.

З гэтых ярамanaхаў ужо на другім месяцы нямецкае акупацыі ў жніўні 1941-га году прыехаў у Слонім архімандрыт Філафей (Нарко), але мітрапаліт Панцялейман яго ня прыйняў, тлумачачы адмову патрэбай перш параіцца зь япіскапам Банадыктам (Бабкоўскім), калі за два тыдні той прыедзе зь Беластоку.

У выніку гэткага павароту справы архімандрыт Філафей прыехаў у Баранавічы й адседзеў два тыдні ў мяне.

Зь ягоных паводзінаў ды размоваў зь ім я выснаваў, што гэта ня наш чалавек і нельга спадзявацца ад яго шмат царкоўнага павадырства. Але др. Шчорс знаў яго даўжэй й, калі прыслаў, дык трэба было памагаць пастаўляць на япіскапа.

Пасьля двох тыдняў я павёз архімандрыта Філафея ў Жырава. Пасьпелі мы адно на цалаваньне крыжа, але мітрапаліт Пацялейман запрасіў нас на полудзень, з тым, што гутарка ў нашых справах будзе пасьля пачастунку.

Пасьля полудня мітрапаліт Панцялейман прадставіў япіскапу Банадыкту архімандрыта Філафея, як кандыдата, якога беларусы хочуць усьвяціць у япіскапа.

На гэтае жаданьне далей мне быў мітрапалітаў адказ, што ўсьвячэньне можна будзе зрабіць, калі я прыеду наступным разам.

“Да тае пары я належна прыгатую яго да прыйма высокае царкоўнае годнасьці.

Вы, беларусы, павінныя, аднак, забавязацца перанесьці мяне, як мітрапаліта Беларусі, у Менск ды дапамагаць нам праводзіць рэлігійную дзейнасьць.

Архім. Філафей будзе япіскапам Полацкім і Віцебскім. Да часу ён будзе пры мне, як сакратар сыноду”.

Др. Шчорс хацеў, каб мітрапаліта Панцялеймана й япіскапа Банадыкта адсунуць на тытулярныя становішчы, бяз ніякае сутычнасьці зь вернікамі, а япіскапы Філафей і Апанас (Мартос) мелі кіраваць усёю Царквою.

Але, шчыра кажучы, мітрапаліт Панцялейман выдаўся мне лепшым за іх беларусам, а ўжо без раўні больш талковым герархам ды царкоўным дзеячом вышэйшае здатнасьці.

Таму я згадзіўся, каб архімандрыт Філафей стаў вікарным япіскапам і мітрапалітавым сакратаром.

Іншая рэч, што атрымаць згоду й на гэта ня было лёгка, бо мітрапаліт Панцялейман сам хацеў быць нятолькі галавою царквы, але й выканальнікам усіх царкоўных справаў.

Трэба было яго пераконваць, ды нат асьцерагагаць, што з увагі на немцаў яму было-б лепш быць у цені, бо яго-ж на беларускага мітрапаліта паставіла НКУС, праз што ён сам добра ведаў.

Япіскап Банадыкт згадзіўся застацца з нашай Царквою, хоць амаль уся ягоная япархія была далучаная да Усходняе Прусіі. Я ведаў, што яму нявельмі хацелася падпарадкоўвацца Бэрлінскаму япіскапу Серафіму, зь якім ён ня быў знаёмы.

Я яму падзякаваў за ягоную ахвоту застацца зь беларусамі, дадаўшы, што ён-жа наш пскоўскі сусед ды ў Наваградчыне правёў усё ягонае сьвятарскае жыцьцё.

І ўладыка Панцялейман мусіць таксама быць беларус, бо нарадзіўся й доўга жыў у Полацку.

Дык, Бабкоўскі й Ражноўскі зусім могуць быць беларускія прозьвішчы.

У далейшай гутарцы мітрапаліт Панцялейман упіраўся, каб адчыніць толькі сьвятарскія курсы, а я дамагаўся, каб гэта была багаведная акадэмія на поўным унівэрсытэцкім узроўні.

Урэшт згадзіліся, каб была такі акадэмія, а ейным рэктарам стаў архімандрыт Апанас, пасьля ягонага ўсьвячэньня ў япіскапы.

Пасьля япіскап Апанас, хоць і згадзіўся быць рэктарам, але разумеў гэта як абняцьце гатовага, зробленага іншымі, бязь ніякае арганізацыйнае працы зь ягонага боку, бо ён, як настаўнік, можа толькі падпісаць нейкую паперыну. Пазьней казаў, што няма кандыдатаў, але-ж, каб былі вучні, павінна быць школа

Цяжка патрабаваць, каб моладзь сама закладала й вяла акадэмію, асабліва ў ваенных абставінах ды пагатоў яшчэ ў духоўнай справе, дзе патрэбнае пакліканьне, а не спадзяваньне на добры заработак пасьля школы.

Наапошку я паставіў патрабаваньне, каб уладыкі якнайхутчэй абвесьцілі ды кананічна афармілі аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Яны выкручваліся вайною, няпэўным часам - хто ведае чым вайна скончыцца й што пасьля яе будзе? ды на гэтую справу будзе тады даволі часу.

Я ставіў абвешчаньне аўтакефаліі, як асноўны й нявылучны пункт нашае дамоўленасьці - без аўтакефаліі яны не павінны спадзявацца на ніякую помач ад беларускага грамадзтва, ці дзяржавы.

Толькі на гэтае дамаганьне яны згадзіліся напісаць да Канстантынопальскага патрыярха просьбу на томас, а я прыабяцаў даставіць яе да патрыярха. Гэтае просьбы яны, як ведама, ніколі не напісалі, хоць я прыпамінаў ім іхнае абяцаньне кожныя пару месяцаў, пакуль былі ў Менску.

Праз менскі адрэзак гісторыі нашае Царквы ведама больш, але засталіся й няведамыя дэталі.

Адзін зь іх тое, што др. Я. Ярмачэнка паставіў “пракурорам сыноду” інж. Янку Касяка.

У тую пору ў Менску дзейнымі былі: ярамanaх Фінькоўскі, сьвятар Пыск, але я нічога ня чуў праз а. М. Лапіцкага ажно да часу Астроўскага, але гэта быў ужо канец.

Ярамanaх Фінькоўскі самаруч прыехаў у Менск й хутка зарганізаваў там парахвію й адчыніў царкву. Запраўды, нат пазьнейшыя ворагі хвалілі ягоную місыянэрскую дзейнасьць.

Але здарылася нешта прыкрае паміж “пракурорам сыноду” ды а. Фінькоўскім, і “пракурор” дамогся, каб немцы высялілі таго зь Менску. На шчасьце гэта было ў пачатку акупацыі, бо, каб а. Фінькоўскі быў там даўжэй, ня вылучана, што яго магла-б спаткаць доля ксяндза Гадлеўскага.

Мітрапаліта Панцялеймана немцы высялілі ў Ляды, каля Менску - як да яго там не дабраліся й ня зьнішчылі бальшавікі?!

Толькі ўладыка Філафей пачуваўся ў Менску, як у сваёй хаце й сям'і, але нічога царкоўнага не рабіў.

На Менскі Сабор я ня быў выбраны дэлегатам і ня быў на ім, але хапала там “тоже белоруссов”.

Ня шмат мог зрабіць там і Янка Касяк.

Наадварот, зь ягонага пісаньня ў “Гісторыі Праваслаўнай Царквы” выглядае, што іх расейскія недзялімцы загналі ў кут, шукаць попялу ў вагні.

Яны зайняліся рэгулямінамі й статутамі, ды змарнавалі час Сабору на работу, якую пару сакратароў сынадальнае канцылярыі магло зрабіць лепш, бо на аснове пісаных царкоўных канонаў, што ўстаноўленыя ўжо больш за тысячагодзьдзе.

Усё гэта довад на тое, як вораг можа атуманіць людзей, якія ня ведаюць справы, бо статуты былі выпрацаваныя вельмі прыгожа, але на іх змарнаваны час, што быў патрэбны на замацаваньне агульнага становішча, як абвешчаньне аўтакефаліі, адзьдзяленьне ад Маскоўскага патрыярхату ўсіх земляў гістарычнае Беларусі й узнаўленьне япархіяў, дзе яны на гэтых землях былі.

Разам з гэтым і адлучэньне япархіяў Заходняе Бела-

русі ад Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ад якое можна было прасіць адпушчэньня, або свае меры томасу. Тады, магчыма, др. М. Шчорс асягнуў-бы ў мітрапаліта Дзяніса вызнаньне беларускае аўтакефаліі.

І. Касяк піша праз абвешчаньне аўтакефаліі, як-бы ён яе запраўды абвесьціў, але яны, хоць і гаварылі тады праз нашую Царкву як самастойную, ды гэтага праўна не сказалі, ані напісалі. Нічога ня было сказана празь пераход на беларускую мову ў адправах, ані праз устанаўленьне народнага псальму-гімну, або малітвы. Гэта, а не ўкладаньне статуту, што ня мог розніцца ад статутаў іншых аўтакефальных праваслаўных цэркваў, павінна было быць заданьнем Сабору.

За пару гадоў пасьля Сабору беларускія герархі правялі хіратонію ў япіскапы пратаярэя Сеўбы, вельмі паважанага старэйшага сьвятара, ды не павадыра, а толькі маленьніка. Бранскі япіскап Юры таксама ня выявіў вялікіх кіраўнічых здольнасьцяў.

Гэткім чынам найздатнейшым сярод вышэйшага духавенства заставаўся мітрапаліт Панцялейман, а найхітрэйшы быў архіяпіскап Банадыкт. І, каб яны мелі ў сабе хоць крыху чаго беларускага, мы сёньня мелі-б усё, улучна йз шмат большым лікам парахвіяў, манастыром і сынадальнай друкарняй тут, у Амэрыцы ды моцным уплывам на грамадзкія й палітычныя арганізацыі. Але яны былі пераконаныя расейскія недзялімцы, маскоўцы беларускага паходжаньня.

У другой палове 1944-га году беларускія герархі апынуліся ў Нямеччыне, а пасьля ейнае капітуляцыі перайшлі ў Расейскую Зарубежную Царкву, як шчупакі лезуць у воду. Найгоршую подласьць паміж імі зрабілі, усё-ж, архіяпіскапы Філафей і Апанас. Беларусы-ж выцягнулі іх з манастырскага забыцьця й яны ведалі, што іхныя хіратоніі былі робленыя для Беларускае Царквы, ды прысягалі гэтую Царкву будаваць.

Калі гэткае ашуканства робіць сьвецкі чалавек, дык яго й называюць ашуканцам, ды абыходзяцца, як з пасьледам чалавецтва. Але, як разумець ашуканства япіскапаў? Таму, калі хто сёньня іх успамінае і кажа, што яны хочуць назад да нас, я кажу запозна - беларускае грамадзтва на іх патрэбы, ані па іх жалю ня мае

Я пісаў да абодвых уладыкаў праз два гады просьбы, праекты павароту да свайго народу. Асіпчык езьдзіў да іх што пару месяцаў, а часам і тыдняў з маймі даручэньнямі й перакзамі намоваў.

Архіяпіскап Філафей толькі раз напісаў мне ліста брацкага, але не царкоўнага зьместу.

Архіяпіскап Апанас пісаў шмат лістоў, у якіх найчасьцей выпраўдваў сябе, а аднойчы нават прыехаў і быў у мяне цэлы тыдзень. Бывала гаворым колькі гадзінаў і ён ужо згодзіцца быць беларускім япіскапам. Але, паесьць, пройдзецца й узноў трэба пачынаць усе перамовы спачатку, бо ён знайшоў новую прычыну на пераход у зарубежжа.

Я ўжо нават згаджаўся ўтрымоўваць яго, лепш як свайго бацька, на маім карку, але й гэтага было мала - яму яшчэ трэба кялейніка. Яму трэба палац, самаход, шофер - ня выпадае-ж япіскапу сядзець за стырном.

Уладыку Сяргея знайшоў Дзямідаў. Ён намовіў уладыку памагчы ўзнавіць дзейнасьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды пілаваў мяне праз добры год, каб я ехаў у Канстанцу зрабіць пісьмовую дамову й разгортваў царкоўную працу з новага пачатку.

Знаючы Дзямідава я паставіўся да ягонае прапановы зь недаверам. Мне здавалася, што ён гэта надумаў за чаркаю й праферансам. Усё-ж тое, што ўладыка патрабаваў каго іншага на перамовы сьветчыла аб паважнасьці ягоных намераў.

Я падаў прапанову ў гэтай справе на зьезьдзе беларускага грамадзтва, здаецца ў Остэргофэне. Ня было там нікога, хто разумеў царкоўныя пытаньні й няшмат тых, што хацелі-б імі займяцца. Урэшце таму, што я жыў блізка ля Канстанцы, займяцца гэтай справай было даручана мне. Быў высланы ліст інж. Абрамчыку ў Парыж і той прыслаў мне паўнамоцтва ад БНР.

У выніку гэтага была падпісаная з уладыкам Сяргеям дамоўленасьць, паводле якое ён абыймаў кіраўніцтва БАПЦ часова й меў адыйсьці як толькі будуць усьвячаныя два беларускія япіскапы. Апрача таго ён забавязваўся усьвячаць у духоўны стан толькі кандыдатаў прадстаўленых беларускім грамадзтвам ды ня прыймаць бяз згоды гэтага грамадзтва ў БАПЦ япіскапаў, што пайшлі ў Расейскую Зарубежную Царкву.

Узнаўленьне дзейнасьці БАПЦ у Канстанцы адбылося ў дзень сьв. Еўфрасіньні Полацкае 1948-га году вельмі паважна. Усе ўдзельнікі ўрачыстасьці былі ў споведзі й прыйнялі Сьв. Прычасьце. Пасьля Сьв. Літургіі Уладыка Сяргей з двама сьвятарамі адправіў малебен.

Праз хіратонію Уладыкі Васіля ўсім ведама. Ён прысьвяціў ягонае жыцьцё на службу Богу й Беларускаму Народу. Із усіх вучаных і здатных на япіскапаў праваслаўных беларусаў толькі ён адзін пайшоў на гэтую службу й выконвае яе выдатней як хто зь ведамых нам япіскапаў зь Беларусі, ці іншых краінаў. Таму кожны, хто крытыкуе Уладыку, сам ня ведае, што чапе.

Тымбольш, што пасьля пераезду беларускае эміграцыі зь Нямеччыны ў іншыя краіны перад кіравецтвам БАПЦ паўсталі новыя, незнаёмыя на Бацькаўшчыне, справы й праблемы, празь якія трэба будзе пагутарыць асобна. *А. др. Віктар Войтанка*

## АДЗНАЧЭНЬНЕ 82-х УГОДКАЎ 25-га САКАВІКА Ў НЬЮ ЁРКУ

Адзначэньне 82-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ў Нью Ёрку пачалося ў сыботу, 18-га сакавіка г.г., дэманстрацыяй супраць лукашэнкаўскага рэжыму перад будынкам Задзіненых Нацыяў у Мангэтане.

У сыботу, 25-га сакавіка г.г., сьперад будынку Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне раніцай ад'ехалі на дэманстрацыю ў Вашынгтоне два аўтобусы, што падарозе забралі ахвочых да ўдзелу з Гайлэнд Парку й Саўт Рывэру.

На мейсцы да іх далучылася грамада з Кліўлэнду й усе разам праз пару гадзінаў дэманстравалі перад беларускай ды расейскай амбасадамі супраць гвалтаваньня правоў чалавека ў Беларусі й ліквідацыі ейнае незалежнасьці.

У абодвых дэманстрацыях браў удзел а. архімандрыт Аляксей, шкада толькі, што ня былі падрыхтаваныя плякаты з пратэстамі супраць перасьледаваньня й забароны БАПЦ на Беларусі.

Традыцыйнае сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю, 2-га красавіка г.г., у парахвіяльнай залі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Папярэдзіла яго Сьв. Літургія й малебен за зьняволеных, якія адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з а. архімандрытам Аляксеям ды а. дыяканам Ігарам.

Урачыстасьць адчыніў, ды пасьля агульнае малітвы й заклiку Божага прыяньня Я.М. Мітрапалітам Ізяславам, прынагоднае слова сказаў старшыня Нью Ёркскага Адзьдзелу БАЗА сп. Віталь Зайка.

Пасьля яго ўспамінамі праз ранейшыя сьвяткаваньні падзяліўся з прысутнымі старшыня Галоўнае Управы БАЗА Сп. Антон Шукелойць, а віцэ-прэзыдэнт Рады БНР сп. Сяргей Навумчык расказаў празь нядаўняе вельмі ўрачыстае сьвяткаваньне гэтае даты ў Празе.

Урачыстасьць скончылася прапяяньнем усімі беларускага нацыянальнага гімну ды пачастункам.

# БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ У БРУКЛІНЕ

Усё пачалося з будынку й гародчыка, дакладней кажучы з будынку Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага й гародчыку перад ім.

Справа ў тым, што будынак сабору пабудаваны на пачатку XX ст. ў нова-гатычным стылі й ён адзін, сярод навакольнае архітэктурнае трасянкі, нагадвае даўніну, а гародчык, што сьпераду, - адзіная зялёная месьціна на даўгім адрэзку вуліцы.

Амэрыканскія месты цяпер перажываюць адраджэньне й Бруклін, асабліва каля сабору, не застаецца ад праправы.

Гэтая праправа прыкметная неаднo на будынках, але больш яшчэ ў якасьці людзей, што пасяліўшыся там, рупяцца, каб іхную частку места палепшыць.

З гэтай мэтай яны заснавалі некалькі арганізацыяў, што займаюцца, між іншым, і ўпрыгожаньнем вуліцаў.



Зьлева направа: А. Архімандрыт Аляксей, Сп. Зянон Пазьняк, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, Сп-ня Кэты Фіцпатрык, Сп. Джон Армстронг

Адна зь іх, Mid-Atlantic Block Association, вельмі ўпадабала будынак нашага сабору й наважыла памагчы ўпрыгожыць яго, засаджваючы гародчык кветкамі паводле прафэсыйнага пляну.

Парахвіяльная Рада сабору з ахвотай іхную прапанову прыйняла, але зь нястачы наяўных сродкаў давялося разам шукаць спосабу, каб іх здабыць.

Гэткім чынам зьявілася, з ахвотай усімі падхопленая думка, упяршыню ў Нью Ёрку зладзіць у парахвіяльнай залі беларускі фэстываль, што пазнаёміў-бы жыхараў раёну з жыцьцём парахвіі, а таксама зь беларускай культурай і гісторыяй, ды даў-бы прыбытак на праект.

Амэрыканцы ўзялі на сябе рэкляму й збор ахвяраў сярод амэрыканскае публікі, а Парахвіяльная Рада такое-ж заданьне ў беларускай грамадзе ды праграму фэстывалю вызначанага на 27-га лютага 2000 г.

Крыху пазьней да укладаньня праграмы далучыўся Нью Ёркскі Адзьдзел Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

Усё-ж, перашкодай для наладжаньня фэстывалю быў стан парахвіяльнае залі, у якой дабраахвотнай працай вельмі павольна быў роблены рамонт.

На дзіва, аднак, набліжэньне даты фэстывалю ўзварушыла беларускую грамаду й гуртом праца была скончаная на пору.

Пералічыць усіх з гэтага працоўнага гурта тут замала мейсца й іхныя заслугі будуць адзначаныя на недалёкім сьвяткаваньні 50-х угодкаў парахвіі, але, усё-ж, нельга не адзначыць вялікага ўкладу працы нястомнага старшыні Парахвіяльнае Рады сп. Расьціслава Гарошка, а таксама сп. Анатоля Тальянскага, а. дыякана Ігара Якуніна, ды сп.сп. Сяргея Хамякова (Алэна) й Міхася Абраменка.

Разам з аднаўленьнем залі йшла й падрыхтоўка самога фэстывалю, у якой Mid-Atlantic Association, дзякуючы працы сп-няў Су Вулф і Нэнсы Мэккірнэн ды сп. Стэна Муррэй выслала камунікат у прэсу, надрукавала плякаты й заклікі, што былі разасланыя жыхарам і прадпрыемствам раёну, ды выстаўленыя ў вокнах крамаў.

З нашага боку сп. Барыс Данілюк апрацаваў у ангельскай мове дзьве малыя брашуркі зь інфармацыяй праз парахвію й БАПЦ, а таксама праз Беларусь, што былі разсыланыя перад фэстывалям і раздаваныя на ім.

Ён прыгатаваў і запросіны, якія сп. А. Тальянскі шырака разаслаў беларускаму грамадзтву.

Сп. А. Тальянскі падаў таксама абвесткі ў расейскія штодзённыя газэты, якія чытае новая беларуская эміграцыя зь нястачы сваіх.

Паколькі заданьнем фэстывалю было азнаямленьне амэрыканскае публікі зь Беларусяй і напамін роднага краю беларускім эмігрантам - на гэта была патрэбная вялікая колькасьць ілюстрацыйнанага матарыялу, каляровыя адбіткі якога бясплатна зрабіў сп. Андрэй Падлескі.

Тэматычныя стэнды з гэтымі ілюстрацыямі аформіў сп. Сяргей Капытка.

Былі запрошаныя сьпевакі й музыкі, паказ народных строяў згадзіліся зладзіць сп-ні Ала Орса Рамана й Валянтына Якімовіч, а зарганізаваць пячэньне беларускіх дранікаў узяла на сябе сп-ня Ларыса Шаламіцкая.

Гэтак, у гарачай падрыхтоўцы, якой, здавалася, ня будзе канца, настаў урэшце ў напружаньні чаканы дзень фэстывалю - нядзеля, 27-га лютага.

Надвор'е выдалася сонечнае й цёплае, дык арганізатарам стала спакайней, а малітвы на Сьв. Літургіі, якую адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з а.а. архімандрытам Аляксеям і дыяканам Ігарам, далі надзею, што Бог паспрыяе на ўдачу.

Што гэтага прыяньня Бог не адмовіў, выявілася неўзабаве, гледзячы на большую, як калі, колькасьць маленьнікаў у царкве ды яшчэ больш лік наведвальнікаў у залі, што зрабілі запраўдную аблогу кухні, дзе запрацаваныя амаль ад цямна жанчыны ледзь пасьпявалі падаваць дранікі са сьмятанай і скваркамі.

Фэстываль адчыніў кароткім прывітальным словам найстарэйшы й найдаўнейшы парахвіянін, сакратар Парахвіяльнае Рады Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага сп. Барыс Данілюк.

За ім прамовіў старшыня Нью Ёркскага Адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Віталь Зайка.

Усьлед сп-чна Вольга Казак прасьпявала амэрыканскі нацыянальны гімн ды, пасьля прапяяньня ўсімі "Войча Наш", Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў заклікаў Божае прыяньне да фэстывалю й ягоных удзельнікаў.



Група ўдзельнікаў фэстывалю

Тады старшыня Mid-Atlantic Association сп. Стэн Муррэй, паказваючы малюнкі, высьніў прысутным праект упрыгожаньня гародчыка перад царквою ды заклікаў праект падтрымаць.

Фэстывалю пашчасьціла нятолькі на наведвальнікаў, але й на высокіх гасьцей.

Першым зь іх выступіў з прамовай сп. Джон Армстронг, загаднік беларукага адзьдзелу ў Дзяржаўным Дэпартаманьце, у якой сказаў, што ягоную прысутнасьць на фэстывалі трэба лічыць за знак узмоцненага падтрымоўваньня ўрадам ЗША незалежнасьці Беларусі, ды дэмакрацыі й правоў чалавека для ейных грамадзянаў.

Далей ён коратка апавёў праз сёньняшнюю трагічную сытуацыю на Беларусі, за якою ўважна сочыць урад ЗША, ды заклікаў не зьняверавацца зь ейнае прычыны, а працаваць і змагацца за зьмену, бо роля дыяспары ў гэтай справе цяпер асабліва вялікая.

Наступнай прамовіла сп-ня Кэты Фіцпатрык, дырэктарка Міжнароднае Лігі Правоў Чалавека, кажучы, што яна радая ўпяршыню сустрэцца з гэткай колькасьцяй, асабліва маладых, беларусаў, ды шкадуе, што яны муселі ажно ў Амэрыцы ратавацца ад перасьледу дыктатарскага рэжыму ў Беларусі.

Яна заклікала не ўпадаць у зьнявер, а прадоўжваць змаганьне за свабоду праз звароты да кангрэсмэнаў ЗША ды сустрэчы зь імі, а таксама лісты да рэдактараў газэтаў ды іншыя кантакты з амэрыканскай публікай.

Сьледам да прысутных зьвярнуўся сябра меставае рады й кандыдат на прэзыдэнта Брукліну сп. Кэн Фішэр, які адзначыў, што ягоныя бацькі родам зь Віцебска й таму ён асабліва рады быць на беларускім фэстывалі, ды запэўніў, што ў патрэбе заўсёды гатовы памагчы парахвіі й беларускай грамадзе.

Усе прамовы ў ангельскай мове, для тых, што ёю не валодаюць, перакладала сп-ня Ала Орса-Рамана, за што ёй вялікая падзяка.

Апошнім прывітаў фэстываль лідар Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк.

У ягоным слове ён з удзячнасьцяю адзначыў пасьлядоўную пазыцыю ўраду ЗША ў падтрымоўваньні незалежнасьці Беларусі ды падкрэсьліў важнасьць кантактаў з амэрыканскім грамадзтвам, а таксама патрэбу адзінства й салідарнасьці беларускіх дэмакратычных сілаў.

На гэтым афіцыйная частка фэстывалю скончылася й пачалося, можна сказаць, запускавае гуляньне.

Асалодай гэтага гуляньня былі выступы нашых ведамых артыстаў: сям'і Валянтыны, Алеся й Вольгі Казакоў, Алеся Балотніка з дачушкай Ксеняй, Ліды Кано й Рымы Пракопчык, ды Алэна.

Выступы былі разьдзеленыя на некалькі частак, што адбываліся працягам фэстывалю й кожны раз выклікалі захапленьне публікі, ды нат падыймалі яе пусьціцца ў карагоды

Паміж выступамі артыстаў гаспадыні частавалі наведвальнікаў дранікамі й печывам ды пітвом.

Пад'еўшы, наведвальнікі аглядалі стэнды йз здымкамі Беларусі ды сталы з рознымі выставамі.

А было гэтых выставаў на паказ і на продаж некалькі: былі народныя мастацкія вырабы, кнігі, дыскі й касэты, ды нават калекцыя беларускіх паштовых значкоў.

У перапынках паміж выступамі артыстаў, дзякуючы немалой колькасьці ўдзельнікаў, што апрануліся ў народнае адзеньне, быў таксама паказ гэтага адзеньня, што выклікаў агульнае захапленьне.

Апрача ўсяго гэтага, для зацікаўленых амэрыканцаў былі зарганізаваныя колькіразовыя агляды сярэдзіны царквы, падчас якіх патрэбныя выясьненьні даваў сп. Барыс Данілюк.

Фэстываль трываў больш як чатыры гадзіны й быў зачынены традыцыйнай ужо песьняй-малітвай "Пачуй, о, Ласкавая Маці", якую прасьпявала сп. Валянтына Казак, ды прапяным беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля закрыцьця фэстывалю пачалася вечарына з танцамі, што трывала яшчэ з пару гадзінаў.

Нямала наведвальнікаў фэстывалю, у гутарках падчас і пасьля яго, ацэньвалі фэстываль як надзвычайна ўдалую імпрэзу й заахвочвалі да ейнага паўтораньня за год, ды ладжаньня іншых.

Дзякуючы неспадзявана вялікай колькасьці гэтых наведвальнікаў, а таксама немалой колькасьці шчодрых ахвяраў, як амэрыканскага, гэтак і беларускага грамадзтва, фінансавая мэта фэстывалю была асягнутая й праца над першай стадыяй упрыгожаньня гародчыка пачнецца ўжо ў красавіку.

Была асягнутая й патрэбная беларускай справе інфармацыйная мэта, бо вялікі артыкул праз фэстываль із здымкамі надрукавала амэрыканская газэта "Brooklyn Daily Eagle" (March 1, 2000) ды зацемку празь яго зьмясьціў "Голас Радзімы" (20 сакавіка 2000 г).

За ўсё гэта вялікае дзякуй арганізатарам і удзельнікам.

*В. Бражэвіч*

# КАЯНЬНІ Й КАІНЫ

Сёлета, у казані на імшы ў пачатную нядзелю Вялікага Посту, рымскі папа Ян Павал II ад імя Каталіцкае Царквы папрасіў выбачэньня ўва ўсіх тых, што дазналі пакутаў і крыўдаў, зробленых ім ад імя гэтае Царквы ейнымі вернікамі, што зрадзілі Явангельскую Навуку.

Падобныя просьбы былі выказаныя вышэйшымі дастойнікамі Каталіцкае Царквы па ўсім сьвеце.

Мы ня будзем сумлявацца ў шчырасьці папавага каяньня, бо ён зрабіў шмат дабра й няма прычыны дапушчаць, каб на парозе ў вечнасьць казаў няпраўду.

Сьцярпеўшы, аднак, стагодзьдзі паймкненьняў, перш мячавікоў і крыжакоў, а пасьля, аж да сёньня, ваяўнога Польскага Касьцёлу паняволіць, або й зусім зьвясьці нас, як народ, зь сьвету, мы, цяперашнія беларусы, ня дужа верым у шчырасьць выказаных, перад усім, польскімі, кардыналамі й біскупамі шкадаваньняў за крыўды зробленыя іншым хрысьціянам, калі гэткія шкадаваньні й былі.

Ня гледзячы бо на дзе-якія меркі касмэтыкі, пагляды, намеры й дзеяньні ў дачыненьні да нас Польскага Каталіцкага Касьцёлу не зьмяніліся, а гэты-ж Касьцёл вызначае й выконвае ўсходня-эўрапэйскую палітыку Ватыкану, ды дае кадры на ейнае ўжыцьцяўленьне.

У выніку, ня гледзячы на выказваньні, між іншымі, пабеларуску папавыя каляднія прывітаньні ды беларускія перадачы ватыканскага радыя, Каталіцкі Касьцёл на Беларусі застаецца носьбітам ідэі адназначнасьці рыма-каталіцкага веравызнаньня з польскай нацыянальнасьцяй.

Яно й ня можа быць інакш, бо зьверху данізу гэты Касьцёл абсаджаны польскім духавенствам, якое з натуры ня можа дзеяць на рэлігійнай ніве без абяртаньня малых і сталых беларусаў у вышэйшай думкі аб сабе жарсткіх польскіх шавіністаў.

Пару-ж ксяндзоў, што ў іхных парахвіях прыяюць стварэньню, на падабенства польскага, каталіцтва зь беларускім тварам і характарам, адзінотныя ластаўкі на марозным прадвесьні.

Запраўднае стаўленьне Польскага Каталіцкага Касьцёла да беларусаў можна, аднак, найлепш пазнаць і дазнаць там, дзе ён валодае грамадзкай і палітычнай думкай, а гэта значыць у аддадзенай Сталінам Польшчы, на ейную прынаду ў савецкую імпэрыю ды адрэз Беларусі доступу да мора, Беласточчыне.

Жывецца-ж там праваслаўным, ды асабліва сьведамым беларусам, ня гледзячы на скупыя жэсты урадавае праграмы дапамогі нацыянальным меншасьцям, падобна, як жылося ўсім беларусам у перадваеннай Рэчыпаспалітай, г.зн., як нежаданым чужынцам.

Ідэю-ж чужынства беларусаў ды іхняга асяленьня на Беласточчыне ў царскія часы выдумаў і пашырае ніхто іншы, як каталіцкія біскупы й ксяндзы.

Пакольки-ж ксяндзоўскія словы для польскага каталіка мацней за дзяржаўнае права, дык і дачыненьне да беларусаў і абыходжаньне зь імі вызначаецца касьцельнай навукай грэблівасьці й варожасьці.

У выніку нятолькі беларускі актывізм, або сьведамасьць, але ўжо й адно праваслаўнае веравызнаньне сталі прычынаю ўсялякае дыскрымінацыі, у тым ліку й у атрыманьні працы.

Дзякуй Богу, сярод звычнае агульнае беларускае пасыўнасьці ў гэтай справе ды гатовасьці да дагаджаньня, знайшоўся чалавек, што займеў адвагу зрабіць пратэст.

Быў ім ведамы наш мастак Лявон Тарасевіч, што, каб даць разгалос крыўднаму становішчу беларусаў у Беласточчыне ды несправядліваму зь імі абыходжаньню польскае (ўжо) большасьці, адмовіўся прыйняць узнагароду прэзыдэнта места Беластоку за выдатныя мастацкія асягненьні ў 1999-м годзе.

Да поўнага агляду крыўдаў зробленых праваслаўным беларусам Польскім Каталіцкім Касьцёлам нельга абыйсьціся й без успаміну вуніі, якой ён быў прымусовым пашыральнікам праз 400 год, ды ў якую, асобна ад каталікоў лацінскага абраду, сёньня заманьваюць даверлівых беларускіх патрыётаў.

Нажаль, спадзеў гэтых патрыётаў, што вунія, бяз прымусу, стане беларускаю нацыянальнаю царквою, таксама нерэальны, як няпраўднае й казаньне, што яна была ёю ў нашай мінуласьці.

Зрэштай, навошта згадваць беларускую вуніяцкую царкву, калі, паводле думкі украінскіх грэка-каталікоў, ніякае Беларусі, ані беларусаў няма.

Гэтая, ня новая сярод іх думка, апошня ўзноў была выказаная ў артыкуле С. Жэнэцкага "Творится ще одна...держава..." зьмешчаным у грэка-каталіцкім воргане "Америка", што выдаецца ў Філядэльфіі, ЗША.

Вось, у выйнятках, што яны думаюць і чаго хочуць:

*"Беларусь і беларусы - гэта цёмная... бачына ў дачыненьнях паміж нашымі дзяржавамі. Як ведаем зь гісторыі... калі тварылася першая украінская дзяржава, Кіяўская Русь, у яе было ўлучанае... племя крывічы, што... пазьней прыйняло назоў Беларусь. Калі Беларусь была паняволеная літоўцамі... беларусы... тую частку іхных земляў, што засталася ў складзе Кіяўскае Русі называлі Белая Русь, а тую, што пад літоўцамі Чорная Русь.*

*... племя крывічоў... мелі розныя спрэчкі й сваркі зь Кіявам. Але Кіяў умеў заладжваць...племянныя непаладкі, й... крывічы, сёньняшняя Беларусь, доўгія вякі жылі ў складзе Кіяўскае Русі.*

*... пазьней... беларусы адзьдзяліліся ад Кіяўскае Русі... абвесьцілі сябе асобным народам і стварылі... асобную (хоць паняволеную) дзяржаву Беларусь. Праз гэта ў нас... мала напісана, ды таму... мала, а то й зусім... няведама.*

*Мы-ж - украінцы ды беларусы - адзін славянскі народ, маем адну, славянскую мову, у запраўднасьці з мноствам гаворак-дыялектаў... Мы мелі... й маем адзін... нацыянальны назоў Русь: Кіяўская Русь, Беларусь, Чырвоная Русь... Усе гэтыя... "рускія" плямёны жывуць разам, аж... адныя беларусы, бязь ніякае прычыны... адзьзяліліся ад вялікае сям'і русаў і абвесьцілі сябе асобным народам і стварылі сваю... незалежную дзяржаву.*

*Мы, украінцы, чамусь дужа спакойна прыйнялі аддзяленьне беларусаў ад Украіны. Праўда, мы ня мелі магчымасьці затрымаць іх у складзе Украіны сілаю, пайсьці на іх вайною... але... маглі, нашыя гісторыкі, этнолагі, моваведы... настойлівей адгаворваць іх ад адзьдзяленьня. Ды мы... нятолькі не адгаворвалі беларусаў ад адзьдзяленьня..., але нават аддгаворвалі іх, калі яны жадалі да нас узноў далучыцца...".*

На першы пагляд усё гэта можа выдацца трызьняю хворага мозгу, але, ці-ж ня ўсе імпэрыялізмы родзяцца з гэткіх трызьняў ды тысячагодзьдзямі топяць чалавецтва ў крыві, сьлёзах і поце?

Гадавальнікамі-ж гэтых імпэрыялізмаў, ці-ж ня былі скручаныя веры - хрысьціянская, магаматэнская, або й зусім, як камунізм, ці фашызм, бязбожныя?

Таму й насьцярожвае гэты, ужо ня першы знак нараджэньня украінскага імпэрыялізму, тымбольш, што ягонай калыскай той самы Кіяў ды ідэялагічнай асновай той самы варажскага роду "рускі" міф, якім ужо стагодзьдзі жыве маскоўскі імпэрыялізм.

Стваральнікі-ж і носьбіты гэтага імпэрыялізму - Расейская Праваслаўная Царква, нятолькі ня каюцца, але яшчэ вастрэй точаць лязы хвальшывае явангельскае навукі на ягоную перамогу.

*Я. Сланімец*

## ТОЕ, ШТО ЛЮБІМ, САМЫЯ ГУБІМ

Пяты Божы загад кажа: "Чэсьць твайго бацька й тваю маці, дык добра табе будзе й доўга жыцьмеш на зямлі".

"Чэсьць!", пэўна-ж ня значыць, што ў бацькаў, ці маці гонар трэба толькі ладзіць застольлі, хоць і гэта часам на мейсцы, але, што трэба з пашанай абыходзіцца зь імі ды пераймаць і захоўваць атрыманы праз іх Божы дар, або, інакш кажучы, духовую спадчыну.

Духовая-ж спадчына - гэта ўпадобны Богу спосаб жыцьця, што немагчымы без захаваньня створанае Богам ды дадзенае нам праз дзядоўскія й бацькоўскія пакаленьні роднае мовы.

Ня будзем гэтта гаварыць праз тых, што роднае мовы цураюцца, а пагутарым крыху праз нас самых - тых, што, быццам, гэтую мову любяць, захоўваюць яе ды змагаюцца за ейнае існаваньне.

Бяда ў тым, што ў гэтым змаганьні нашай мове дастаецца нятолькі ад ейных ворагаў, але й з нашага неахайнага абыходжаньня зь ёю.

Нямала бо беларускіх патрыётаў, нават бяз прымусу, карыстаюцца наркоўмаўскай граматыкай і правапісам.

Ды й тыя, што, быццам, трымаюцца Тарашкевічавае граматыкі часта калечаць нашую мову на маскоўскі лад.

Найпрыкрэйшы прыклад на гэта - карыстаньне канчаткам "-ай, -яй, -ой" у родным склоне зьмены прыметнікаў жаночага роду, як напр. "Беларускай Народнай Рэспублікі", замест "Беларускае Народнае Рэспублікі".

Тое-ж самае робіцца ў творным склоне зьмены жаночых назоўнікаў, дзе бясконца чуем "хатай, вадой, зямлёй" і пад., замест "хатаю, вадою, зямлёю".

Амаль зусім забытыя наскія формы займеньнікаў жаночага роду, як "гэтая, нашая, вашая, самая", а на польска-расейскі ўзор ужываюцца "наша, ваша, сама".

Таксама, маючы свомы нашай мове займеньнік множнага ліку "самыя", амаль усе кажуць "самі".

Шмат-хто адвык і ад займеньнікаў "ягоны, ягоная, ягонае" ды на чужы манер кажа напр. "яго дзед", замест "ягоны дзед", або "ён сказаў сваёй маці", замест "ён сказаў ягонай маці".

У некаторых выпадках з моўнае неахайнасьці атрымоўваецца іншае ад намеру аўтара значаньне напісанага, як у выслоўі "яшчэ спрабуе павярнуць старыя часы", дзе кажацца праз будучыню, хоць на думцы была цяперашняя пара й трэба было напісаць "яшчэ прабуе вярнуць старыя часы".

Да гэтага, ня дбаючы як карыстацца словамі роднае мовы, мы часта засьмечваем яе пазыкамі чужых.

Адно з найбольш дакучлівых зь іх - расейскі канцылярызм "зьяўляецца", што без патрэбы пярэсьціць шматчые пісаньні, хоць замест яго можна ставіць "ёсьць", або абыходзіцца й бяз гэтага.

Яшчэ адзін дзівос з тае самае крыніцы - выслоўе "выбіраўся дэпутатам", што можа й выяўляе праўду праз падкамуністычныя выбары, але ў нашай мове павінна гучэць "быў выбраны (выбіраны) на дэпутата".

Гэткі спосаб выказваньня думкі заўважваецца, нажаль, і у іншых выпадках - нядаўна надарыла прачытаць, што адзін з адраджэнцаў "выклікаўся на допыт ў КГБ".

Нямала-хто, не памятаючы народнае мовы, а вычытаўшы, відаць, у слоўніку пераклад расейскага слова "сейчас", як "зараз", ужывае яго нятолькі ў значаньні "неўзабаве", ці "хутка", але й замест "цяпер", што гучыць штучна й пачужому.

Даволі часта чуюцца й русыцызмы "зьехаў" у значаньні "паехаў, выехаў" ды "зы(й)шоў", замест "пайшоў, выйшаў, адыйшоў", хоць у нашай мове кажацца толькі "зьехаў з гары, зьехала з галавы шапка" ды "зыйдзі з вачэй, зыйдзі з гары".

Яшчэ адзін благі навык у нашай мове - гэта нахіл карыстацца зьлепленымі словамі, як "дзяржэпартамант" і пад., што нагадвае савецкі жаргон, ды замест трэба, не лянуючыся, казаць "дзяржаўны дэпартамант".

Каб ня было крыўды суседзям з другога боку, мы хапаемся й за палянізмы, найбольш дакучлівы зь якіх - гэта слова "апантаны", што так любае нашым пісарам.

Зазірнуўшы-ж, пры ахвоце, у Насовічаў слоўнік, можна было-б там знайсьці (б. 271) "осеченый", ад "осечаць, осечэньне", або, дакладней кажучы, "асецяны", ці "асетчаны", ад "асеціць, асетчыць" ды "асеценьне, асетчаньне", што гучыць пасвойску ды мае больш сэнсу, як "апантаны".

Таксама й нахутка схоплены "анёл" ніяк да нашае мовы не падыходзіць, а толькі "ангял" у ёй чуецца на мейсцы.

Урэшце й "Збаўца", або "Збавіцель" нічога іншага, як чыста польскія, а таму можа дзе-каму больш інтэлігентна гучныя словы, а сваё "Збавец" здаецца горшым.

У нас, трэба сказаць, нямала прыхільнікаў г.гв. экумэнізму, што любяць пускацца ў розныя лятуценьні на гэтую тэму, здаецца, аднак, што першай экумэнічнай мэтай у нас павінна была-б быць дамоўленасьць паміж Цэрквамі гаварыць на адной беларускай мове, г.зн., каб праваслаўныя й каталікі казалі аднолькава, або "Ісус Хрыстос", або "Езус Хрыстус", а не паро̂знаму.

Гэтае пытаньне, з парадамі моўных знаўцоў, спадзяемся, неўзабаве разьвяжа духавенства абодвых веравызнаньняў, бо гэта справа "духовая", а не як мы з чужога навыку кажам "духоўная".

Мы-ж, будзем яшчэ варочацца да тэмы чысьціні нашае мовы, бо неахайнасьць у ёй таксама грэх.

*Б. Сурынец*



## У СПРАВЕ ЗБОРУ ГРОШАЙ НА КАСЭТУ ЙЗЬ СЬПЕВАМІ СЯМ'І КАЗАКОЎ

Высака цэнячы песеннае мастацтва Валянтыны (Пархоменка), Алеся й Вольгі Казакоў ды іхную ахвярнасьць у службе гэтым мастацтвам Беларускай Справе, як на Бацькаўшчыне гэтак і за ейнымі межамі, у канцы 1996-га году стварылася ініцыятыўная група з мэтай збору грошай на выданьне касэты йзь сьпевамі гэтае заслужанае сям'і.

Заклікі да ахвяраў на гэтую мэту былі друкаваныя ў "Царкоўным Пасланцы" пачаўшы ад Вялікадня 1997-га году.

Нажаль, намаганьні ініцыятыўнае групы ня былі падтрыманыя эміграцыйнай прэсай ды арганізацыямі, і прыбытак ахвяраў апошня спыніўся.

З увагі на гэта ініцыятыўная група пастанавіла далейшы збор грошай на гэтую мэту спыніць, ды падзякаваўшы тым, што на ейны заклік адгукнуліся, назьбіраныя грошы ў суме 720.00 дал. перадаць сям'і Казакоў з надзеяй, што яны самыя знойдуць спосаб давесьці гэтую справу да канца.

Ад імя ініцыятыўнае групы *Барыс Данілюк*

## ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Ад сэрца шчыра вітаем Вас, Дарагія Дабрадзеі й Чытачы з радасным сьвятам Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых, ды жадаем, каб наш Збавец Ісус Хрыстос, што перамог сьмерць, ува ўзнагароду за Вашую ахвярнасьць і працу на Ягонай ніве шчодра памагаў Вам у Вашых жыцьцёвых справах, ды паслаў усім нам перамогу над варожымі сіламі, што намагаюцца ўмярцьвіць нашую Бацькаўшчыну.

Гэтую перамогу мы ўсе разам зможам асягнуць толькі, калі на Бацькаўшчыне будзе ўзноўленая родная Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, што павядзе наш Народ ня ў путы чужынскае няволі й загібелі, а шляхам Збаўцовых Наказаў да годнага жыцьця на зямлі й збаўленьня ягоным сынам, ды дачкам на небе.

Спадзяемся, што Вы й далей будзеце шчодра падтрымоўваць гэтую Божую Справу, ды Вашым прыкладам заахвочваць да гэтага іншых.

Мы-ж, з нашага боку, зробім усё нам магчымае, каб служыць гэтай Вялікай Справе друкаваным словам, нятолькі на бачынах "Царкоўнага Пасланца", але й іншымі выданьнямі, якія рыхтуемся выпусьціць у сьвет у недалёкай будучыні.

Як пазнаку першага кроку ў пляне нашае пашыранае выдавецкае дзейнасьці прапануем увазе тых з Вас, што жывуць у англамоўных краінах, "The Church Messenger" - выданьне "Царкоўнага Пасланца" ў ангельскай мове.

Робім гэта на тое, каб дасягнуць пакаленьні беларускае эміграцыі, што вырасьлі й растуць вонках бацькоўскага краю й не валодаюць беларускаю моваю.

Маем надзею, што Вы, нашыя дасюлешнія Чытачы й Дабрадзеі, гэты наш намер падтрымаеце й дапаможаце пазнаёміць зь ім ня толькі Вашых собскіх, але й Вашых прыяцеляў, ды знаёмых дзяцей і ўнукаў.

Жыды захоўваюць вернасьць Абяцанай Зямлі праз два тысячагодзьдзі, нашчадкі эмігрантаў іншых народаў стагодзьдзямі ганарацца бацькоўскай спадчынай, пара й нам спрабаваць выратаваць тыя сілы, што неразважна страцілі праз узьнятыя звонку сваркі.

На гэта выдавецтву "Царкоўнага Пасланца" патрэбная яшчэ больш шчодрая дапамога дасюлешніх ды новых Дабрадзеяў, як грашыма, гэтак і працай на пашырэньне часапісу, а таксама на складаньне ды прысыланьне допісаў і заўвагаў да ягонага зьместу ў абедзьвюх мовах.

За довад зразуменьня й падтрыманьня дзейнасьці нашага выдавецтва шчодрымі ахвярамі мы гэтым разам шчыра дзякуем наступным Дабрадзейкам і Дабрадзеям:

В. Балашчанка - 50 д., М. Белямук - 5 д., Ул. Брэдзелеў - 30 д., Ю. Весялкоўскі - 10 д., К. Вініцкая - 50 д., А. Войтанка - 50 д., К. Ворт - 50 д., Р. Галяк - 30 д., Б. Данілюк - 100 д., Р. Данілюк - 100 д., Ю. Касьцюкевіч - 50 д., а. В. Кендыш - 50 д., др. Ю. Кіпель - 50 д., Ю. Лапіцкі - 50 д., Манастыр 4-х Явангелістаў УПЦ Гюстон - 100 д., Г. Навумчык - 200 д., А. Падлескі - 20 д., М. Прускі - 5 д., М. Сагановіч - 20 д., др. М. Смаршчок - 25 д., а. М. Страпко - 20 д., А. Сурмач - 5 д., а. М. Таўпека - 10 д., О. Яськевіч - 50 д.

Спадзяемся, што радасьць сьвята Хрыстовага Ўстаньня з Умерлых зьмякчыць сэрцы й тых нашых Чытачоў, што дасюль чыталі часапіс бясплатна, і яны адгукнуцца шчодрымі ахвярамі на Божую ды нацыянальную Справу, якой наш часапіс і выдавецтва служаць.

Чэкі на прысыланыя ахвяры, калі ласка, выпісваць на "Church Messenger".

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"

BELARUSIAN AUTOCEPHALOUS
ORTHODOX CHURCH
ST. CYRIL'S OF TURAU CATHEDRAL
401 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217-1702
CHURCH MESSENGER
Vol. 28, No. 1, Easter 2000
ISSN 1085-973x

ADDRESS CORRECTION REQUESTED
RETURN ADDRESS:
P.O. BOX 5982
SOMERSET, N.J. 08875-5982

NONPROFIT ORG.
U.S. POSTAGE
PAID
SOMERSET, N.J.
PERMIT NO. 44